

**З Калядамі!**


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Памяці Анатоля Корзуна → 3


http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 01 (2956) Год LVIII | Беласток, 6 студзеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Новы год Яна Тарасевіча

Лукаш ЛЕАНЮК

**Да нейкага часу імя Яна Тарасевіча — беларускага кампазітара з Сакольшчыны было зусім забытае людзьмі і гісторыяй. Цяпер кампазітар вяртаецца ў Беласток, дзе жыў апошнія пятнаццаць гадоў жыцця. Яго імем будзе названае дарожнае кола на Выгодзе.**





Радны Славамір Назарук



Фота Лукаша ЛЕАНЮКА



У Оперы і філармоніі плануецца куточак Яна Тарасевіча

— У кожным скліканні Гарадской рады хочам увекавечыць нейкую важную асобу, звязаную з Беластокам з беларускага ці праваслаўнага асяроддзя, — кажа радны ад Форуму меншасцей Падляшша Славамір Назарук. — І калі я быў у лістападзе на ўрачыстасці з нагоды пятай гадавіны заснавання школы імя Кірыла і Мяфодзія, сустрэў там Ганну Кандрацюк-Свярубскую. Яна падказала мне прозвішча беларуса, які звязаны з Беластокам і якога варта ўвекавечыць. Атрымаў ад яе таксама кніжку пра Яна Тарасевіча. Пасля чытання я ўжо быў упэўнены, што памяць гэтага чалавека трэба ў нейкі спосаб узгадаць.

Дарожнае кола імя Тарасевіча знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц 27-га Ліпеня, Яна Бжэхвы і Далістоўскай. Па словах Славаміра Назарука, сёння ў Беластоку цяжка знайсці лепшае, а таксама свабоднае месца, каб прысвоіць яму імя Яна Тарасевіча:

— Пасля прыняцця рашэння Гарадской рады трэба пачакаць яшчэ 14 дзён каб пастанова ўступіла ў сілу. Пасля таго неўзабаве павінны там з'явіцца дошкі з імем Яна Тарасевіча на кожным уездзе на дарожнае кола.

Але першыя кропкі на карце памяці аб гэтым выдатным беларускім кампазітары пазначаны былі ў роднай яму Саколцы. Тут некалькі гадоў таму гарадскія ўлады прысвоілі імя Тарасевіча вуліцы пры дарозе ў Шындзель — даўні маёнтак кампазітара. У мінулым годзе, дзякуючы Таварыству ў карысць захавання культурнай спадчыны „Сакольшчына", на сцяне Музея Сакольскай зямлі адкрытая была мемарыяльная дошка ў гонар кампазітара.

— Гэта добра, што ўжо чарговае месца на Падляшшы сведчыць пра выдатную асобу Яна Тарасевіча, — кажа намеснік старшыні Таварыства „Сакольшчына" Андрэй Гарбуз. — Кожны, хто пабачыць гэтае прозвішча на карце ці проста на дарожнай дошцы, задасць сабе пытанне кім быў Ян Тарасевіч.

Тарасевіч нарадзіўся ў Саколцы 23 верасня 1893 года. Яго маці і бацька хутка памерлі. У 1900 годзе ад рака памерла маці кампазітара Марыя, якая паходзіла са шляхецкай сям'і Кушаляў. Бацька сканаў у цягніку пасля вяртання з пахавання жонкі. Ян Тарасевіч музычную адукацыю атрымаў у Пецярбургу, дзе быў вучнем, між іншым, Мікалая Абрамыча, Аляксандра Глазунова. Быў сведкам многіх гістарычных падзей, між іншым, штурму на Зімовы Палац у 1917 годзе. Удзельнічаў таксама ў стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі. Перад другой сусветнай вайной жыў у маёнтку Шындзель каля Саколкі, які атрымаў у спадчыну ад сваіх апекуноў Леакадзіі і Нікіфара Улазоўскіх. Пасля вайны маёнтак быў парцэляваны, а сам Тарасевіч пераехаў у Беласток.

— Трэба памятаць пра тое, што у Беластоку прайшла амаль чацвёртая частка жыцця Яна Тарасевіча, — кажа аўтарка кніжкі пра кампазітара „У напрамку Тарасевіча" Ганна Кандрацюк-Свярубская. — Ён тут жыў з 1947 года да дня сваёй смерці 18 чэрвеня 1961 года. Беласток важны таму, што ён пазбіраў тут усё тое, што згубіў у час першай і другой сусветных войнаў. Напісаў яшчэ раз тыя кампазіцыі, якія былі друкаваны ў 1913 годзе, магчыма іх узбагаціў. Апрача гэтага напісаў шмат новых твораў, на якіх таксама практыкаваліся вучні музычнай школы.

Тарасевіч у Беластоку вучыў музыкі ў Ніжэйшай і сярэдняй школе Алены Франкевіч. Тут пазнаў вядомага сёння польскага кампазітара Ежы Максымюка.

— Ян Тарасевіч з'яўляецца цудоўным сімвалам беларуска-польскай стыхіі, якая нараджаецца і памірае на гэтых землях ад стагоддзяў, — кажа дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Раберта Скальмоўскі. — Тут мы маем выдатнага піяніста, віртуоза, цудоўнага педагога. Гэта быў арыстакрат духу, а таксама вялікі мастак, чалавек, які сябраваў з найбольшымі. Некаторыя не вельмі хочуць да гэтага прызнаца, не ведаць чаму, але Тарасевіч быў любімцам царскага двара, жыў у Зімовым Палацы ў Пецярбургу. А тут на Падляшшы, па прычыне яго паходжання, у камуністычныя часы быў ён „persona non grata". І так было да нядаўна. Нават яго ноты апынуліся ў Мінску таму, што ніхто ў Беластоку не быў зацікаўлены яго творчасцю.

Дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі Раберта Скальмоўскі, таксама як гарадскі радны Славамір Назарук, зацікавіўся асобай Тарасевіча дзякуючы Ганне Кандрацюк-Свярубскай. Яна ад дваццаці гадоў вяртае ад забыцця спадчыну кампазітара:

— У кніжцы „У напрамку Тарасевіча" відавочная сувязь з Беластокам. На старонках кніжкі выступаюць людзі, якія распавядаюць пра свае знаёмства з кампазітарам. Дарожнае кола імя Тарасевіча будзе выклікаць пытанне ў тых, якія не ведаюць яшчэ хто гэта такі. Калі ў горадзе пазначанае гэтае імя, яно больш трывала звязваецца з месцам, а таксама выклікае цікавасць.

Цікавасць сярод меламанаў асобай Яна Тарасевіча можа таксама выклікаць фестываль яго імя, які рыхтуе Падляшская опера і філармонія. Дырэктар Раберта Скальмоўскі адзначае, што ў час мерапрыемства гасцей оперы чакае мноства неспадзяванак:

— Дзяржаўны архіў у Мінску, дзе знаходзяцца ноты і асабістыя рэчы Яна Тарасевіча, рыхтуе нам на адкрыццё фестывалю спецыяльную выставу, прысвечаную кампазітару. Думаем, што будзе можна пабачыць яго піяніна. Хочам стварыць у оперы куточак Яна Тарасевіча, дзе будуць знаходзіцца інструмент, ноты і асабістыя рэчы кампазітара.

Трохдзённы фестываль імя Яна Тарасевіча пачнецца 10 траўня. У гэтым часе на сцэне оперы творчасць Тарасевіча прэзентаваць будуць музыкі з Мінска і Беластока. Як кажа каардынатарка фестывалю Ілона Карпюк, пры нагодзе гэтага мерапрыемства Падляшская опера і філармонія хоча зрабіць музычны абмен:

— Музыкі з Беластока паедуць у Мінск, а выканаўцы з Мінска будуць прэзентавацца ў Беластоку. Неабходныя дакументы мы ўжо падалі ў Міністэрства культуры Беларусі і чакаем адказу. Тады ўжо будзе можна гаварыць аб падрабязным плане фестывалю.

2013 год будзе пераломным, калі ідзе пра памяць аб асобе і творчасці Яна Тарасевіча. Варта, каб кожны падляшскі беларус даведаўся аб гэтым выдатным кампазітары з-пад Саколкі. Каб бліжэй пазнаць яго жыццё заахвочваю прачытаць кніжку Ганны Кандрацюк-Свярубскай „У напрамку Тарасевіча". Каб пазнаць творчасць, ужо цяпер напамінаю пра абавязковую прысутнасць на фестывалі імя Яна Тарасевіча ў траўні.

Пра Яна Тарасевіча чытайце таксама на стар. 8





# Нязменны ЦУД

Стык старога і новага гадоў заўсёды міжволі змушае да пэўнага асэнсавання прайшоўшага адрэзка часу, які складае 365 дзён, і планавання бліжэйшай наступнасці. Прытым падсумаванні могуць быць досыць сумнымі (даруйце за каламбур), а надзеі дастаткова наіўнымі. І ўсё ж на Новы год і Каляды заўсёды кожны чакае хоць маленькага, але цуда. Такая прырода чалавека і такая яго існасць. Людзі зычаць сваім сваякам, блізкім і добрым знаёмым шчасця, здароўя і ўдачы. На ўсіх, канешне, гэтага, так жаданага чалавечага шчасця, не хопіць. Будуць вяселлі і народзіны новых людзей, хрысціны і розныя побытавыя радасці. Але будуць і чарговыя страты, трагедыі і расчараванні. Для кожнага чалавека, што прыходзіць на гэты свет, ва Усявышняга ёсць свая задума, вызначана адпаведная місія, ведаць якую дадзена не ўсім. Адсюль і столькі чалавечых памылак, блудных шляхоў, адхіленняў і незразумелых учынкаў. Але ёсць людзі, якія адзначаны асаблівай пячаткай — гэта тыя, што цярпяць несправядлівыя крыўды за іншых, гэта пакутнікі за Веру і Бацькаўшчыну. Часта хваробы і беды папускаюцца чалавеку для духоўнага аздараўлення, часта нам не зразумець вышэйшага провіду. Бывае, што на цяжкую хваробу пакутуюць цэлыя народы, цэлыя краіны. Так сталася ў сучаснасці і з нашай Беларуссю, якая збочыла з генеральнага шляху і пайшла дарогай тупіку, дарогай, якая ўжо абярнулася ахвярамі. Беларусь — гэта яшчэ адна ўяўная арэна змагання дабра і зла. Кожны выбірае з якога боку яму стаць, кожны мае няпросты выбар, мае голас свайго сумлення, якое амаль не памыляецца. І кожны робіць свой выбар — прычым амаль штодзённа, бо гэты выбар паўстае надзвычай часта.

Хачу пералічыць усіх тых, хто ў гэтыя святочныя дні не мог быць разам са сваімі блізкімі, з'есці калядную вячэру, выпіць келіх шампанскага. Тых, хто несправядліва засуджаны і сёння за кратамі ці на „зоне" пакутуе за ўсю Беларусь, за ўсіх нас. Алесь Бяляцкі, Зміцер Дашкевіч, Мікола Статкевіч, Эдуард Лобаў, Аляксандр Францкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Павел Севярынец, Ігар Аліневіч, Васіль Парфянкоў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка — гэта не проста палітычныя вязні, гэта героі нашага часу, гэта абраныя людзі, адзначаныя асаблівай „пячаткай". Давайце задумаемся пра іх лёс, складзем свае малітвы і зычэнні, дашлем ім ліст ці паштоўку. Да гэтага нас абавязвае наша беларуская салідарнасць, якая мацуецца пад Хрыстовым бел-чырвона-белым сцягам. За кратамі таксама нямала іншых невядомых людзей, якія засуджаны альбо зусім несправядліва, альбо неадэкватна здзейсненым учынкам. Давайце хвілінку падумаем і пра іх...

Адно цуда здараецца штогод і непазбежна — гэта Раство Хрыстова. З'яўленне маленькага Ісуса на гэты свет нязменна дорыць віфлеемскае святло ў кожны хрысціянскі дом, кожную сям'ю, кожнага самотнага чалавека. Для Бога няма лепшых і горшых людзей, няма вялікіх і маленькіх, няма праваслаўных і рыма-каталікоў, няма пратэстантаў і грэка-каталікоў — ён аднолькава любіць усіх, як ласкавы бацька аднолькава адкрыты для кожнага — з нашымі малымі альбо вялікімі грахамі, з нашай слабасцю і духоўнымі хваробамі.

Грамадзяне многіх краін у навагоднюю ноч сядаюць перад тэлевізарамі, каб паслухаць віншаванні кіраўнікоў сваіх дзяржаў, нягледзячы на супадзенне ці рознасць палітычных поглядаў, перажыць хоць некалькі хвілін грамадзянскай салідарнасці. Бальшыня сучасных беларусаў пазбаўлена магчымасці такога суперажывання, адчування прыналежнасці да сваёй дзяржавы. Але давайце не азлабляцца, не множыць грамадзянскай нянавісці, не паглыбляць расколу. Бо зло ніколі не перамагчы злом. Давайце яшчэ раз асэнсуем цуд Раства і будзем мацаваць нашу Веру, нашу Любоў, нашу Надзею.

Усіх з Новым годам і Калядамі!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Смутак пустой талеркі

Прыйшлі Каляды, пара паразмаўляць пра... самоту. Найбольш адзінокая пры калядным стале дадатковая талерка, традыцыйна чакаючая непрадбачанага госця. Сумнае тое, што рэдка хто ёю карыстаецца. А яшчэ больш сумнае, што мала хто сапраўды рады такім гасцям. А яшчэ больш часцей абдзіраецца гэтую талерку з гонару. Не ставіцца яе на пачэсным месцы стала, ані не дадаюцца ёй у кампанію сталовыя прыборы, місачка на боршч і шклянка на капмот з сушанай садавіны — абавязковых для таго, каб прыбылы госць мог прыстойна павячэраць з іншымі. Дык нашто каму такая пустая талерка, калі нават сімволіка пустая?

Самота сёння асацыюецца з прысаромленасцю, ганьбай. Ганьбай акрываецца кожны, хто незалежна ад дзесяткаў сяброў пазнаёмленых на Фейсбуку, не патрапіць ні з адным з іх проста сесці і памаўчаць. А найпрыгажэйшыя сяброўствы нараджаюцца ў маўчанні. Хопіць палаючы касцёр, гучанне разладжанай гітары, хор жаб на фоне пагружанага ў чэрвеньскай ночы возера і траскатлівы рой іскраў.

Але ж бывае, што самота становіцца строгім арыштам для людзей закрытых у сваім памучаным розуме. Ведаю такога чалавека, амаль шасцідзесяцігадовага, які здаўна не высылае эсэмэсак, электроннай пошты, паштовак, лістоў, хаця меў бы каму. Нікому таксама ён не тэлефануе, а і яму ніхто таксама не хоча званіць. Усіх навокал абвінавациў ён у здрадзе, махлярстве, нелаяльнасці. Такім чынам спацыфікаваў сваё мінулае да апошняга прыхільнага яму чалавека. Калі гэта запозна зразумеў, пабуджаны опіем дробнай напышлівасці, знішчыў адрасы і нумары тэлефонаў да сям'і і знаёмых, разбіваючы і разрываючы на шматкі іх імёны і прозвішчы, фатаграфіі і добрыя ўспаміны. І так пакараў сябе ізаляцыяй у казематах благіх эмоцый. Сёння здзіўляецца, што нават яго ўласны цень уцякае перад ім. Ці незалежна ад таго паставіць ён на сваім калядным стале дадатковую талерку?

Найбольшае пачуццё адзіноты выклікае ўва мне ўспамін аднаго могільніка. Ды не такога, які можна яшчэ сустрэць на Падляшшы — поўнага меланхалічнага цяпла старых дрэў і жывых сцежак, над якімі гуляюць галінкі дзікага бэзу і язміну. А такога, які я ўбачыў у Нью-Йорку, ахлопліваючага хіба з трохсотгектарны ўчастак ля берага ракі Іст-Рывер. Убачыў я яго з акна аўтобуса, які якраз з'язджаў з высокага віядука ў даліну надыходзячага вечара. Як выглядаюць амерыканскія магілы, дык кожны хіба ведае — тэрацавыя таблічкі ўкладзеныя радамі на элегантна прыстрыжаным газоне. Таму вось з-за гэтай фальшывай элегантнасці няма там хаця б корчыка бэзу, хаця б яліначкі. Я глядзеў згары на гэты мёртвы мемарыял, крывавячы пунсовасцю заходзячага сонца; глядзеў на палаючую змяркеннем Іст-Рывер; глядзеў на Манхатан, уздымаючыся на другім беразе ззяннем агнёў. Глядзеў на дзесяткі тысяч надгробных плітнякоў, на той тратуар памерлых, на тое корса чакаючых уваскрашэння і, паверце мне, не заўважыў я ў гэтай пустэчы ані жывога чалавека, ані жыцця, ані надзеі ўваскрашэння.

Так, я тады спазнаў сапраўдную самоту. Якраз тады. Бо не адчуваю яе, калі думаю пра маіх каханых памерлых. Не гавару тут толькі пра сям'ю. Нават далейшыя знаёмыя, якіх я ведаў і неабавязкова любіў, калі ўжо канчаткова адышлі, сталі мне блізкімі. Таму не магу пра сябе сказаць, што я самотны. Самае большае — я абязлюджаны. Адчуваю сябе бязлюднай выспай, таму што штораз больш ува мне застылых у камень постацей, якія, як тыя на востраве Вялікадня, непарушна выглядваюць чагосьці на затуманеным гарызонце. І пачынаю дадумвацца чаго. Толькі што гэта ўжо зусім іншая гісторыя і, на маю думку, самая цудоўная. Усё ж лічу, што кожны мае права на тое адкрыццё на свой уласны і непазбаўлены надзеі спосаб. Таму на гэтым канчаю гэты абзац.

А ўзамен спяшу пажадаць усім самотным, каб знайшлі свае месца пасярод блізкіх сабе людзей. А ўсім Чытачам «Нівы» — каб усе дадатковыя талеркі на іхніх сталах дачакаліся сапраўды чаканага Госця. Вясёлых і спакойных Свят!

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Перад новай перспектывай



Канец старога і пачатак новага года гэта добры час на падсумаванні. На тры дні да канца 2012 года зрабіла гэта таксама ўправа Падляшскага ваяводства.

— Найбольш захапляльным нашым поспехам было адкрыццё, пасля гадоў стараннняў чарговых самаўрадаў ваяводства, Падляшскай оперы і філармоніі, — не скрываў у час спецыяльнай прэс-канферэнцыі падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі, не хаваючы прытым спрэчнасцей, якія надалей пануюць вакол праблем з акустыкай у гэтым аб'екце. Гэта падобна, як заявіў маршалак, з-за таго, што „кіруючыя операй не могуць справіцца з высокімі тэхналогіямі, прымененымі ў гэтым аб'екце".

Вядома, не толькі операй жыхары Падляшша жылі ў мінулым годзе. Сярод дасягненняў маршалак і віцэ-маршалкі пералічылі м.інш. перабудову дарог Краснаполь — Сейны (каля 10,5 км) і Гайнаўка — Елянка (больш за 20 км). Прадбачылі, што ў 2013 г. поўным ходам рушыць будова веласіпедных сцежак, спалучаючых ваяводствы ўсходняй Польшчы (веладарожка будзе прабягаць таксама праз Супрасль, Семяноўку, Белавежскі нацыянальны парк, Гайнаўку і Мельнік) ды будуць працягвацца далейшыя працы па падрыхтоўцы будовы рэгіянальнага аэрапорта (пакуль на ўзроўні падрыхтоўкі аналізаў). Віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі пахваліўся мадэрнізацыяй у мінулым годзе трох электрычных цягавых агрэгатаў для чыгуначных пасажырскіх перавозаў.

Задэкларавай: „На 2013-2014 гады плануюцца далейшыя пакупкі і мадэрнізацыя рэйкавых машын".

Не ўспамінаў аб ліквідаваных маршрутах у Чаромху ці ў напрамку Кузніцы і далей у Гродна. Змаўчалі таксама пра адтэрмінаванне на далейшую будучыню пабудовы хаця б дарогі «Via Carpatia».

Іншы з віцэ-маршалкаў Мечыслаў Башко пералічваў дзесяткі і сотні здадзеных у карыстанне ў рэгіёне станцый ачысткі вады, метраў каналізацыйных сетак, ачышчальняў, у тым ліку прысядзібных, і вясковых святліц.

— Поўнасцю зьмяняем нашы вёскі і мястэчкі, — не хаваў гонару.

Член управы Яцак Пярунак расказваў пра завяршэнне пабудовы спортпляцовак-орлікаў у рэгіёне (у краіне збудавалі ў рамках гэтага праекта 2 200, а на Падляшшы 76; апошняя такая спортпляцоўка будзе здадзена ў карыстанне яшчэ ў новым годзе — у Сямятычах). Спаслаўся таксама на іншы праект з будучыні: „Хочам з самаўрадамі іншых ваяводстваў спалучыць Вялікія мазурскія азёры з Аўгустоўскім каналам".

Ганарыўся, аднак, асабліва збудаваннем першага адрэзка высакаскараснай сеткі, якая мае даць лёгкі доступ да інтэрнэту ва ўсім ваяводстве. Гэты поспех гэта больш за 5,5 км уздоўж рамантаваных ваяводскіх дарог Навасады — Гайнаўка і Звадзецкае — Навасады.

Адна з працаўніц дэпартамента здароўя Ваяводскай управы Падляшскага ваяводства пры непрысутнасці ў час канферэнцыі віцэ-маршалка Цэзары Цеслюкоўскага, адказнага за гэтую дзялянку, супакойвала ў тоне навагодніх пажаданняў: «Мы стрымалі працэс задоўжвання шпіталяў. Хаця з цяжкасцямі, але ж задоўжанасць зьмяншаецца. Складала 273 млн зл., а на канец года 260 млн зл.»

Тут уключыўся маршалак Дважанскі: «Сітуацыя шпіталяў надалей цяжкая, хаця назіраецца ўласцівая тэндэнцыя».

На канец падляшскі скарбнік Гернык Грыка не пакінуў ілюзій: «Трэба мець грошы (гаворка пра ўласны ўклад — М. Х.) на новую, фінансавую еўрасаюзную перспектыву. У гэтым кантэксце задоўжанасць гэта адзіны шлях, калі падатковыя паступленні меншаюць».

З пункту гледжання самаўрадаў, у тым ліку падляшскага, 2013 год будзе важны. Будзе ўзважвацца, на колькі грошай Падляшша будзе магло разлічваць у новай фінансавай еўрасаюзнай перспектыве да 2020 г., у тым ліку колькі дастанецца яму, напрыклад, з праграмы «Развіццё ўсходняй Польшчы». Таму важнае, каб разумна закончыліся сёлета працы над г.зв. рэгіянальнай праграмай для Падляшскага ваяводства, якая будзе рэалізавацца ў 2014-2020 гадах, а негацыяцыі якой (і іншых ваяводскіх праграм) з Еўрапейскай камісіяй маюць завяршыцца да канца 2013 года.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Свет сімвалаў у жывапісе Анатоля Корзуна

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

**Наш беларускі гайнаўскі мастак, ураджэнец Арэшкава, былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя Анатоль Корзун (1939-2007), карціны якога вядомыя далёка па-за Падляшшам, пры жыцці не дачакаўся ў Гайнаўцы вялікага прызнання. Першая вялікая выстаўка яго жывапісу была наладжана ў Гайнаўскім белмузеі пасля яго смерці, пад наглядам яго сябра, мастака Віктара Кабаца. Была таксама арганізавана вечарына, прысвечаная мастаку ў Публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы. 14 снежня 2012 года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы адбылося адкрыццё чарговай вялікай выставы карцін Анатоля Корзуна, на гэты раз выбраных з усіх перыядаў яго творчасці (у сямейных калекцыях захоўваецца ажно каля 200 карцін). На гэты раз белмузей выдаў таксама буклет з рэпрадукцыямі лепшых карцін, з выказваннямі і інфармацыяй аб творчасці і жыцці мастака.**

Хаця гайнаўскага жывапісца падтрымлівалі сябры, а яго карціны здабылі прызнанне ў польскіх мастакоў, бо ў мінулым кантакты з жывапісцамі з Беларусі былі абмежаваны, то многія нашыя людзі, незарыентаваныя ў мастацтве, глядзелі на працы Анатоля Корзуна з падазронасцю і недаверам у іх вялікую мастацкую вартасць. Сам жывапісец таксама не быў адкрыты на мясцовае грамадства і можа таму яго творчасць на Гайнаўшчыне была малавядомай. Апошнімі гадамі многа ў гэтым плане памянялася і на адкрыццё выставы ў белмузеі апрача асоб, якія ведалі мастака, прыйшло многа маладых людзей, якім цікавы быў яго жывапіс, насычаны многімі сімваламі.

— Творчасць Анатоля Корзуна — гэта перш за ўсё алейныя працы на палатне. Браўся ён таксама за акварэлі і рысунак. Яго творчасць прыцягвае сумленнасцю мастацкай працы і атракцыйнасцю ўяўных прастораў. Мастацтва Анатоля Корзуна з'яўляецца спробай не столькі паказання вонкавага, аб'ектыўнага свету, прадметаў і з'яў, існуючых у ім, але, перш за ўсё, асабістым запісам унутраных досведаў і маналогам. У сваіх працах Корзун спрабуе зразумець і акрэсліць сябе як мастака і чалавека, сваю індывідуальнасць, шукае свае, арыгінальныя і непаўторныя сродкі выразу, шукае свайго месца на зямлі. Здаецца, яму гэта ўдалося, асабліва ў пейзажах, — напісала ў прымеркаваным да выставы буклеце Агнешка Ціханюк, спецыяліст па культурнай дзейнасці ў белмузеі. — Анатоль Корзун выйшаў з майстэрні Станіслава Барысоўскага, што адціснула ў яго творчасці след каларызму. Яго творы — гэта карціны фармаваныя колерам, з якіх ззяе вялікая моц выразу і менавіта колер будуе настрой твора.

Анатоль Корзун здабыў вышэйшую мастацкую адукацыю на Аддзяленні мастацтваў ва Універсітэце імя Мікалая Каперніка ў Торуні і быў сябрам Саюза польскіх мастакоў. Яго працы прэзентаваліся на выставах у Польшчы і па-за межамі краіны. Цяпер, апрача сямейных і прыватных калекцый, карціны гайнаўскага жывапісца знаходзяцца ў дзяржаўных установах у Польшчы і ў замежжы. Анатоль Корзун многа разоў быў стыпендыятам міністра культуры і мастацтва, лаўрэатам шматлікіх узнагарод. Быў, між іншым, узнагароджаны сярэбраным медалём за распаўсюджванне мастацтва ў Войску Польскім і бронзавым медалём за заслугі для абароназдольнасці краіны.

— Яго пейзажы не канкрэтныя, а выдуманыя і фантастычныя, часам дзіўныя, непрадбачаныя, быццам катастрафічныя і пагрозлівыя, хаця не пазбаўленыя своеасаблівай мяккасці і цяпла. Для іх стварэння мастак упрагае перш за ўсё сваю фантазію, фантазію багатую, гнуткую і наватарскую, — напісаў крытык мастацтва, доктар Тадэвуш Марцінак.

На выставе ў белмузеі экспануюцца працы з рэальнымі краявідамі, але іх там мала. Анатоль Корзун маляваў краявіды перш за ўсё з выкарыстаннем сімвалаў. Яго сябра Віктар Кабац, што выступіў у час адкрыцця экспазіцыі, звяртаў увагу на матывы Белавежскай пушчы, якую мастак маляваў пасвойму. Расказаў таксама пра работы Корзуна з матывамі з космасу і тымі, што адлюстроўваюць складаны чалавечы лёс.

— Спачатку мы з Анатолем Корзунам выконвалі графіку, акварэльныя працы. Тады вельмі складана было купіць алейныя фарбы (пазней мы пазнаёміліся з беластоцкім мастаком Тадэвушам Болазам, які дапамог нам іх купіць). Анатоль рэалістычна адлюстроўваў акружаючыя нас краявіды, перш за ўсё Белавежскую пушчу. Свае працы прэзентаваў у Доме настаўніка (таксама ў белліцэі — А. М.). Мы, выпускнікі настаўніцкіх мастацкіх школ, пачалі тады выконваць алейныя карціны. Анатоль пачаў шукаць спосаб, у які мог бы як найлепш намаляваць Белавежскую пушчу і знайшоў такі спосаб, карыстаючыся сімваламі. Пачаў таксама маляваць нацюрморт. Я распачаў вышэйшую адукацыю ў Торуні і ўгаварыў паступіць туды Анатоля. Паступіў ён у вышэйшую ўстанову год пазней за мяне. У час вучобы меў ён магчымасць выехаць на пастаяннае жыхарства ў вялікі горад, але застаўся верным роднымяму Гайнаўцы і Арэшкаву. Пакінуў ён трывалы след у гайнаўскім мастацтве. Пазней пачаў маляваць карціны на тэму космасу, якім цікавіўся. Частка яго прац тычыцца жыцця чалавека і складанага яго лёсу, што таксама паказваў пры дапамозе сімвалаў. Людзей мастак размяшчаў паміж зямлёй і космасам, у таемных абставінах, — сказаў Віктар Кабац і дадаў, што працы Корзуна, асабліва тыя касмічныя, здабылі прызнанне ў польскіх крытыкаў мастацтва.

— Яго карціны глыбокія і шматзначныя ў змесце. Я знаходжу ў іх адвечную чайкоўскую тэму змагання дабра і зла, жыцця і смерці... — пісаў пра творчасць Анатоля Корзуна ў 1979 годзе Мікола Гайдук.

Жонка мастака, Алімпія, расказала ў музеі пра мужа, які гаварыў іншым тое, што думаў і з-за гэтага бывалі ў яго клопаты.

— Мой муж жыў вельмі інтэнсіўна, не верыў прадвяшчанням лекараў і захутка адышоў з гэтага свету. Я старалася выручаць яго ў сямейных абавязках і таму ў мужа было многа часу займацца мастацтвам і вучыцца ў вышэйшай установе. Пасля 1989 года не ўмеў прабіцца ў мастацкім свеце і таму яго карціны не паказваліся на выстаўках у нашым рэгіёне, хаця мужавы працы прэзентаваліся, напрыклад, у 2006 годзе ў Берліне. Анатоль быў такі шчыры, просталінейны, гаварыў тое, што думаў і з-за гэтага таксама мог нарабіць сабе клопатаў, але гэта не памяншае вартасці яго мастацтва. Мне мужавы карціны вельмі падабаюцца і таму будзем захоўваць іх у сямейнай калекцыі, — сказала Алімпія Корзун, якая разам з сямейнікамі прысутнічала на адкрыцці выстаўкі. Сын Грыгорый дадаў, што яшчэ не прыйшоў час, каб прадаваць бацькавы карціны.

На адкрыцці аўтарскай экспазіцыі прысутнічалі таксама настаўнікі Гайнаўскага белліцэя, якія ўспаміналі Анатоля Корзуна як сябру па працы і таленавітага педагога, які ў шасцідзесятых і сямідзесятых гадах вучыў мастацтву і тэхніцы ў белліцэі.

— Анатоль быў арыгінальным і баявым педагогам. Вучні яго баяліся, але і любілі. Бывала, што ён ішоў да дырэкцыі і дабіваўся там сваіх правоў, не баяўся гаварыць тое, што думаў у час пасяджэнняў педагагічнай рады. Ён павысіў значэнне прадмета мастацтва ў белліцэі, зацікавіў мастацтвам многіх вучняў, сярод якіх былі і такія, што пасля здабылі вышэйшую адукацыю па мастацтве. У школе ладзіў ён конкурсы і выстаўкі, якімі ўмеў зацікавіць моладзь. Быў ён таксама класным кіраўніком. У мінулым нашая моладзь не выязджала далёка ад дома, а Анатоль вучняў свайго класа вазіў на экскурсіі ў розныя гарады Польшчы і нават звазіў у мастацкую галерэю ў Дрэздэне, што было тады незвычайным здарэннем. Збіраў ён таксама старыя экспанаты, крыжы, самавары, чысціў іх. Яго кватэра пераўтварылася ў невялікі музейчык, — пералічваў заслугі свайго сябра па працы былы настаўнік беларускай мовы Васіль Сакоўскі. — Вельмі любіў ён мастацтва і можна сказаць, што на ўсе сто працэнтаў быў мастаком. Калі адышоў з нашага белліцэя, шукаў свайго месца ў жыцці і бывала яму нялёгка. Быў стыпендыятам міністра культуры, але і бывала, што заставаўся без працы.

— Анатоль Корзун дбаў пра высокі ўзровень заняткаў па мастацтве і тэхніцы, умеў нас, вучняў, зацікавіць сваім прадметам і мастацтвам увогуле. Быў ён чалавекам непрадбачлівым у сваіх паводзінах, але аднačасна справядліва ацэньваў працы вучняў. Моладзь яго любіла. Навучыў нас інакш, як мы думалі раней, глядзець на мастацтва. Пераконваў нас, што не заўсёды тое, што мы бачым у наваколлі, мусіць быць такім, якім нам паказваецца, — успамінала былая настаўніца беларускай мовы, а раней вучаніца мастака Вольга Сянкевіч.

Выстаўка карцін Анатоля Корзуна была наладжана ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» з фінансавай падтрымкай Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі ды Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, паколькі гайнаўскі мастак многа працаваў у карысць свайго рэгіёна і Польшчы не толькі як жывапісец. Мала асоб памятае, што Анатоль Корзун разам з Віктарам Кабацам афармлялі экспазіцыі Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Гайнаўскае машыннае прадпрыемства «Гамех» да сіх пор карыстаецца лагатыпам, запраектаваным Анатолем Корзунам, а ў Нарве і Белавежы стаялі драўляныя помнікі яго аўтарства.

— Анатоль Корзун — адзін з самых лепшых гайнаўскіх мастакоў. Мы выбралі на выстаўку самыя лепшыя яго карціны з сямейных калекцый. Перад намі была вельмі цяжкая задача, бо творчасці Корзуна характэрны высокі ўзровень, — заявіў дырэктар музея Тамаш Ціханюк.

Агнешка Ціханюк звярнула ўвагу на пасобныя перыяды ў творчасці Анатоля Корзуна, ад якіх выбраны карціны для выстаўкі. Дзве апошнія працы, якія выканаў у 2005 годзе, змяшчаюць матывы з яго космасу. Засталіся яны неапраўленымі і ў такім стане прэзентуюцца ў музеі. Мастак паспрабаваў пісаць іконы ў своеасаблівым стылі.

— Я захопленая карцінамі Анатоля Корзуна. Людскія лёсы паказвае ён на карцінах, прысвечаных чарнобыльскай аварыі і тэракту ў Нью-Йорку. Гледзячы на апошнія яго працы відаць, што цяжка яму было, калі іх маляваў. Прац з жаўнерскімі матывамі мы не паказваем, бо прэзентаваліся яны на папярэдняй выстаўцы ў нашым музеі. Аднак самыя характэрныя для Корзуна карціны, гэта лініі выкананыя на касмічных пейзажах, — сказала ў канцы вернісажу Агнешка Ціханюк.



Сямейнікі Анатоля Корзуна на адкрыцці рэтраспектыўнай выстаўкі яго жывапісу. Злева: жонка Алімпія, сястра Марыя Галіцкая і сын Грыгорый

## Дэмаграфія Гайнаўскай гміны

Зараз у 37 мясцовасцях Гайнаўскай гміны пражывае 4181 асоба. Да найбольшых вёсак належаць Дубіны (809 жыхароў), Арэшкава (384), Навасады (290), Старое Беразова (282), Ліпіны (273), Махнатае (213), Новае Корніна (184), Пасечнікі-Вялікія (128), Барысаўка (114), Дубічы-Асочныя (108) і Хітрая (101).

Менш чымсці сто жыхароў налічваюць Чыжыкі (90 жыхароў), Рэпіска (84), Пасталова (79), Катоўка і Трывежа (па 75), Пуціска (73), Сарочая Ножка (51), Барок і Тапіла (па 50), Васількова (46), Савіны Груд і Бельшчына (па 43). Самыя малыя пасяленні гэта Буды-Лясныя (4 жыхары), Галяковая Шыя (6), Дубінская Ферма(10), Скрыплева (16), Сахарэва (17), Пераходы (20), Чарлёнка-Лясная і Смаляны Садок (па 22), Альховая Кладка (23) і Лазіцы (24). На працягу пяці гадоў (2007-2012) лік жыхароў павялічыўся ў вёсках Ліпіны (на 34 чалавек), Арэшкава (18), Навасады (10), Дубіны і Пасталова (9) ды Пуціска і Звадзецкае (5).

Зменшыўся лік жыхароў у 25 вёсках, у тым ліку ў Хітрай (на 15 чалавек),Трывежы (13), Махнатым і Новым Корніне (12), Барку (7), Сарочай Ножцы і Тапіле (6) ды Барысаўцы (5).

У 2012 годзе 14 пар атрымала медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё”. Былі яны з Арэшкава, Пасечнік-Вялікіх, Пуціскаў, Альховай Кладкі, Дубін, Старога Беразова, Новага Корніна і Махнатага. Мужчыны жаніліся пераважна з маладзейшымі ад сябе жанчынамі на 2-3 гады, але была і розніца на 5, 8, 9 і 10 гадоў. У 2012 годзе ў Гайнаўскай гміне не было ні аднаго 100-гадовага жыхара. **(яц)**

## Свет братоў Грым

У 2012 годзе мінула 200 год ад выдання казак братоў Вільгельма і Якаба Грымаў. З гэтай нагоды школьная і публічная бібліятэкі ў Кляшчэлях ладзілі шмат цікавых мерапрыемстваў. У другой палове снежня школьная бібліятэка сарганізавала сустрэчу з героямі казак нямецкіх аўтараў. Мэтай сустрэчы было ўключэнне дзетак у міфічны свет братоў Грым. Каб бліжэй пазнаёміць маладых чытачоў з творчасцю казачнікаў, была арганізавана міні-выстаўка, на якой прэзентаваліся партрэты аўтараў, іхнія біяграфіі і творы. 12 снежня адбыўся турнір на тэму жыцця і творчасці братоў Грым. Удзельнічала 15 дзетак. Задачай было правільнае рашэнне крыжаванкі. Тэст на ўзровень ведаў удзельнікі выканалі паспяхова. Гэтым самым даказалі, што нягледзячы на тое, што прайшло столькі гадоў, казкі братоў Грым захоўваюцца ў памяці чытачоў. Пераможцамі турніру сталі Дагмара Гурлік, Каміль Скурчынскі, Юлія Шэвяк, Дам'ян Артэмюк і Марыя Клем.

## Ці ведаеце, што...

— у Кляшчэлеўскай гміне на 30 лістапада 2012 года пражывала 2 792 жыхароў, у тым ліку 1 415 жанчын і 1 377 мужчын;
— нарадзілася 12 дзетак, памерла 49 чалавек;
— у ЗАГСе зарэгістравалася 18 шлюбных пар (у сужонства ўступіла 40 жыхароў);
— з месца сталага пражывання вырэгістравалася 36 асоб, а 21 зарэгістравалася;
— абменена 141 пашпарт. **(ус)**

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Палічанскі прагрэс

Калі 10 лютага 2010 года ў салэцтве Палічна праходзілі выбары солтыса і салэцкай рады, жыхары вёскі былі падзелены. Не было аднадумнасці ў народзе. Частка была на баку старога солтыса (24 гады на пасадзе знаходзілася Ірэна Зінчук), іншыя пагаджаліся на перамены. Канчаткова на пасаду солтыса былі прад'яўлены два кандыдаты: Альжбета Каравай і Анна Зінчук. У выніку галасавання Альжбета Каравай перамагла саперніцу ў прапорцыі 30:12 галасоў. Новую салэцкую раду склалі Ірэна Зінчук (33 галасы), Кшыштаф Зінчук (35) і Уладзімір Назарук (25).

Перамены на пасадзе солтыса не толькі не адмянілі напружанай атмасферы ў вёсцы, але яшчэ больш абвострылі непрыемныя міжлюдскія адносіны. Прытым алею да агню падлілі выбары раднага. За гэты мандат хадайнічала Уршуля Яноўская, важак мясцовых пажарнікаў. Але перамагла Аліна Зазулінская, прадаўшчыца вясковай крамы, маладая поўная энергії жанчына з суседняга Курашава.

Нягледзячы на праблемы новаабраная солтыс з раднай рашылі наперакор усяму пераадолець усялякія перашкоды. Вялікую дапамогу ў гэтай справе атрымалі ад перасяленцаў — сужонства Агаты і Дар'юша Сківінскіх. Сківінскія пасяліліся ў Палічнай больш за дзесяць гадоў таму па рэкамендацыі Гайнаўскага старосты Уладзіміра Пятрочука (іхнія дочкі разам вучыліся ў вышэйшай навучальнай установе). Купілі драўляны дом па былой пошце, добраўпарадкавалі кватэру. Пачаткова прыязджалі толькі на ўік-энды. Прыпушчанскі краявід, рознавіднасць і багацце тутэйшай культуры, а ў асноўным, шырокая прастора да культурнай дзейнасці паўплывалі на рашэнне аб прапісцы на пастаяннае жыхарства. Бадай ад двух год з'яўляюцца яны ўжо членамі палічанскай вясковай супольнасці, узначальваюць Таварыства „Паштоўка”, якое апякуецца шматлікімі індывідуальнымі артыстамі і тэатральнай групай „АЗ Тэатр”. Іхня кватэра стала афіцыйна сядзібай культурнай установы ў Палічнай. Альжбета Каравай наладзіла кантакты з „Паштоўкай”. У выніку супрацоўніцтва ўзнікла таварыства „Стакротка” (Маргарытка).

Праз апошнія два гады многае перамянілася ў Палічнай. Наступіў прагрэс у міжлюдскіх адносінах. Паўплывалі на гэта станоўчыя дзеянні палічанскіх культурных устаноў — таварыстваў „Паштоўка” і „Стакротка”. Арганізаваныя мерапрыемствы ў палічанскай святліцы не толькі прыцягвалі жыхароў вёскі, але і дапамагалі ладзіць станоўчыя адносіны з суседнімі Вэрстокам, Вілюкамі, Старынай, Курашавам ці Войнаўкай. Вясковае насельніцтва, у асноўным спелага ўзросту, патрабавала цішыні, спакою і адпачынку. І такое знаходзілі ў ладжаных імпрэзах, такіх як прэзентацыя тэатра „Вэртэп” з непаўторным спектаклем „Сон аб летняй ночы”, палічанскія запусты, беларускі фэст „І тут жывуць людзі”, ды хаця б апошняе мерапрыемства — экуменічная сустрэча.



Айцец Павел Кучынскі і ксёндз Ян Красоўскі



Радная Аліна Зазулінская дзеліцца аплаткай з бацюшкам Паўлам Кучынскім

Імпрэзу арганізавала салэцкая рада з солтысам Альжбетай Каравай на чале, а суарганізатарам выступіў Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях. Было гэта ў пятніцу 21 снежня. Абвесткі аб сустрэчы былі распаўсюджаны ў наваколлі і на сайце Кляшчэлеўскай гміны. Умовай удзельніцтва ў экуменічнай сустрэчы была частковая кампенсацыя, якая патрабавалася на арганізаванне супольнай вячэры. Такую ахвоту прад'явілі трыццаць тры жыхары. Былі запрошаныя госці: бурмістр Ірэна Негярэвіч, дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк, радная Аліна Зазулінская, святары — ксёндз рымска-каталіцкай парафіі ў Кляшчэлях Ян Красоўскі, ды айцец Павел Кучынскі з матушкай Кацярынай з Вэрстока. Сустрэча пачалася супольнай малітвай. Затым з пропаведдзю выступіў а. Павел Кучынскі. Бацюшка прыпомніў аб духоўнай патрэбе прытрымлівацца правілаў перадкаляднага посту, затым традыцыі адзначэння Божага Нараджэння. Пасля голас узяла бурмістр Ірэна Негярэвіч. У сваім выступленні прыявяла словы Святога Пісання, якія напаміналі аб веры, любові і ўзаемнай пашане чалавека. „Няхай Божае Нараджэнне будзе для нас днём радасці і вяселля, спакою і адпачынку, спачування і прымірэння. Таго ўсім жадаю ад шчырага сэрца”, — сказала бурмістр Ірэна Негярэвіч. Пасля прысутныя дзяліліся просфаркай і аплаткай, віншавалі сябе ўзаемна. Пачалося супольнае калядаванне. Важаком была „Каліна” з Дашоў. Гурту дапамагалі жыхары Палічнай. Радная Аліна Зазулінская ў знак прызнання арганізатарам мерапрыемства — солтысу Альжбеце Каравай і загадчыцы святліцы Барбары Владарчык уручыла святочныя падарункі. Супольнае калядаванне, на якое запрасіў дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк, працягвалася пры калядным пачастунку. Традыцыйныя дванаццаць страў падрыхтавалі палічанскія гаспадыні. Пры застоллі царыла задушэўная, сямейная атмасфера. Мяне зацікавіла размова з васьмідзесяцігадовай бабуляй Надзеяй Раманюк і 76-гадовай Верай Ляўчук. Мае субяседніцы ўспаміналі дзявоцтва, мінулыя будні сямейнага жыцця.

— Да Куцці засядалі на адвячорку, калі ўзыходзіла першая зорка, — распавяла бабуля Надзя. — У куточку ставілі „каляду” — снапок спелага жыта. На стол пад абрус клалі сена. Перад спажываннем ежы гаварылі малітву. Традыцыйна рыхтавалі дванаццаць страў. Абавязкова мусіў быць аўсяны кісель і шчолак з сушаных яблык. Адну лішнюю пасудзіну пакідалі неспадзяванаму госцю. Неспажытую ежу пакідалі на стале. Зараз я адзінокая, — са слязінкай у вачах гаворыць прысівелая бабуля. — Муж памёр. Ва ўзросце 45 гадоў развіталася з Божым светам дачка. У адзіноцтве прыходзіцца дажываць старасці. Адзіную ўцеху знаходжу на размовах з добразычлівымі суседзямі. Таму і зараз рашылася ўдзельнічаць у экуменічнай сустрэчы...

Супольнае калядаванне працягвалася. Варта адзначыць, што дашоўскія пявунні выконвалі добравядомыя ўсім калядкі такія як „Дивная новина”, „Я умом ходила в город Вифлеем”, „По всему світу”, „Ой у полі, полі затишна хатина”, „Небо и земля”, „Бог предвічный народився”. Мяне захапіла новая калядка „Ночь тиха над Палестиной”. Гэтую цудоўную калядку спяваюць зараз і ў Кузаве. Разам з „Калінай” спявалі ўдзельніцы царкоўнага хору ў Вэрстоку Марыя Саевіч з Вілюкоў, Галіна Богунь са Старыны і матушка Кацярына Кучынская. Не заставаліся пасіўнымі і апошнія госці. Стол был багата застаўлены і пасвяточнаму аздоблены. Гэта, разумеецца, заслуга арганізатараў, палічанскіх гаспадынь. Вялікае дзякуй ім за гэта!

Ганаровыя госці: матушка Кацярына і айцец Павел Кучынскія з бурмістрам Ірэнай Негярэвіч





# Кожны жыў сваёй сям'ёй

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

З гісторыяй і кліматам канкрэтнага месца на зямлі можна пазнаёміцца перш за ўсё раскрываючы індывідуальныя біяграфіі яго жыхароў і іх радаслоўныя. „Ніва" пакарысталася гэтым прынцыпам пры паглыбленні ведаў пра ўсё яшчэ таямнічыя Крынкі. У гэты раз застукала яна да дзвярэй васьмідзесяцівасьмігадовай Ніны Клімук. Спадарыня Ніна — асоба вельмі набожная, палову свайго жыцця прысвяціла службе ў крынскім царкоўным хоры. Мясцовыя асацыююць яе не толькі з незвычайным голасам але, перш за ўсё, з жыццёвай інтэлігентнасцю, тактоўнасцю і асаблівай мілатой, якой не змог адабраць ёй бязлітасны час. За кубкам гарбаты спадарыня Ніна падзялілася ўспамінамі, кранаючымі, між іншым, тэму Каляд.



Ніна Клімук з царкоўнымі сшыткамі

Спадарыня Ніна з дому Наўмовіч нарадзілася ў падкрынскай вёсцы Лапічы ў 1925 годзе. Тады ўсё выглядала зусім інакш. Пры галоўнай брукаванай вуліцы стаяла шэсцьдзесят хат, дзесяць з якіх займалі, з асноўным не пароднены з сабой, сем'і Наўмовічаў. Мая субяседніца не ў змозе распавесці пра звычайнае вясковай супольнасці. Калі споўнілася ёй пяць гадоў, Лапічы перасталі быць вёскай у традыцыйным значэнні гэтага слова. У 1930 годзе ў вёсцы зрабілі камасацыю, пераўтвараючы яе ў шматлікія хутары з жыццём ідучым выключна сямейнымі пуцямі.

— Нам надзялілі зямлю непадалёк Трэйгляў, — успамінае спадарыня Ніна. — Быў там вялікі сад, дзесяць гектараў зямлі, балота і ўсё гэта кругом хаты. За гумном знаходзіўся раўчак, які ўліваўся ў раку Нетупу. Парастала яго альшына — высокая і густая як сцяна. Было вельмі прыгожа. Шкада, што тады фотаапаратаў не было. Нашая сям'я ніколі не бедавала. У параўнанні з астатнімі мы былі заможныя. Мой бацька Аляксандр быў добрым сталярам і будаўніком. За вясну мог хату паставіць. Заказаў меў шмат, бо тады ўсе будаваліся. Зімой браў сталярку дахаты, забяспечваючы сям'ю дадатковым немалым даходам. Хто толькі памёр, усім дамавіну строіў. Не ведаю, колькі гэтых трунаў ён зрабіў. Заказвалі Белагорцы, Азяраны і Ямашы, у Плябанаўцы бралі. А і ў Лапічах хто толькі памёр, то ўжо Наўмовіча прасілі. Займаўся гэтым без грошай. Дошкі на труну кожны старэйшы мусіў мець падрыхтаваныя яшчэ пры жыцці. Я яму казала: „Тата, вы будзеце за гэтыя труны ў небе за жыцця!". Пасля парцэляцыі бацька сам паставіў новы дом і хлеў. Усё сам рабіў. Жыў тады яшчэ з намі дзедка Георгій. Ён быў вельмі набожны, разам з бабкай усе пасты трымалі. У час першай сусветнай вайны людзі страшна хварэлі і масава паміралі ад тыфу. Дзедка з бабкай хадзілі мерцвяцоў адпяваць і па-польску, і па-руску. Яны заўсёды вадзілі нас, дзяцей, у царкву. Найчасцей хадзілі мы туды пехатою. Бывала, што і бацька брычкай ці санямі нас завёз. Канешне, брычку і сані тата сам зрабіў. Яны былі такія прыгожая, што ўсе ў ваколіцы на вяселлі іх бралі.

Дзедка Георгій адзін на ўсю ваколіцу адмовіўся ад выезду ў бежанства часоў першай сусветнай вайны. Склалася так дзякуючы аднаму з адступаючых рускіх салдат, які яму сказаў: „Хазяін, ты нікуды не ўязджай. Не знаеш ты, што ў чужой старане будзеш. Тут пасадзіш загончык картоплі і пражывёш". Так і было, усе паехалі, а дзедка адзін застаўся. Гэта яго кніжка, — спадарыня Ніна паказвае стары царскі малітваслоў у скуранай вокладцы, з занатоўкамі дзеда Георгія і бацькі Аляксандра. — У ім усякія святыя разважанні і чытанні на цэлы год. Кожны дзень чытаю, не прапускаю. Дзедка, калі ўжо стары быў і не мог нічога рабіць, то ўсё гэтую кніжку на каленях трымаў. Усё чытаў і чытаў. Мая дачка хацела яе аддаць у Супрасльскі манастыр, але я не дазволіла. Таксама моцна веруючым быў і родны брат дзеда — Якаў Наўмовіч. Ён за цара ў Варшаве выконваў высокую чыноўніцкую службу. Аднойчы Якава спаткала вельмі непрыемнае здарэнне. Невядомы бандыт падстрэліў яго па дарозе з працы на варшаўскую кватэру. У цяжкім стане папаў ён у шпіталь. Гарачка не адступала, доктар не даваў шанцаў на пражыццё. Раптам, як наяве, сталі перад ім дзве постаці: Багародзіца і свяціцель Мікалай. Багародзіца, прыклаўшы руку да яго галавы, сказала: „Этот человек ещё должен жить". Якаў заснуў спакойным сном. Гарачка пачала адпускаць і Якаў стаў папраўляцца. Ён прысягнуў сабе, што калі выздаравее, то ахвяруе крынскай царкве ікону свяціцеля Мікалая, а праваслаўнаму сабору ў Варшаве — ікону Багародзіцы. Як абяцаў, так і зрабіў. З Варшавы прывёз вялікую, прыгожую ікону свяціцеля Мікалая, якая да сённяшняга знаходзіцца на самым ганаровым месцы, побач з крынскай цудатворнай іконай Багародзіцы. Яна падпісана „Яков и Георгий Наумовичи, деревня Лапичи". Тую гісторыю Якаў расказаў свайму брату і тады чатырнаццацігадоваму Аляксандру. Цяпер перадаецца яна з пакалення ў пакаленне. Якаў заўсёды марыў, каб мой тата пайшоў у школу, не хацеў пакідаць яго на гаспадарцы. Склалася інакш. Наступіла вайна, а з ёю другая, неспрыяльная большасці праваслаўных рэчаіснасць.



Малітваслоў дзеда Георгія Наўмовіча

Сама спадарыня Ніна за польскім часам вучылася ў школе ў Крынках. За саветамі гэтая школа згарэла. Хрысціянскія дзеці і моладзь сталі хадзіць у жыдоўскую школу, якая знаходзілася непадалёк ад праваслаўнай царквы, на сённяшнім Школьным перавулку. Тата рашыў тады пасляць маладую Ніну на вучобу ў Гародню. Там у трыццатыя гады жыла татава сястра з мужам. Раней яны мелі хату, стаўленую Аляксандрам у Куркежах, за граніцаю. Ніна часта туды ездзіла пільнаваць маленькую пляменніцу-аднайменніцу. У гродзенскай кравецкай школе Ніна адукавалася з 1939 г. да 1940 г. Была самай лепшай вучаніцай, добра ўспамінае тамашніх настаўнікаў і заняткі, у тым ліку і ўрокі спеву. На жаль, саветы распусцілі гэтую ўстанову, пераўтварыўшы яе ў звычайную дзесяцігодку. У тым часе адрамантавалі крынскую школу, якая працавала па аднолькавай з гродзенскай праграме. Ніна вярнулася ў Крынкі, праводзячы кожную зіму на кватэры ў бацькавай дваюраднай сястры.

Каляды асацыююцца спадарыні Ніне выключна з сямейнай атмасферай. У яе разуменні гэта, перш за ўсё, дзіцячае свята. Памятае, з якой радасцю, будучы маленькай дзяўчынкай, прыбірала ёлку. Праўда, падарункі не былі тады ў модзе, але і без іх дзятва вельмі весялілася. На Каляду Ніпін тата заўсёды прывозіў многа селядцоў, якіх смажылі ў густым цесце. Каля хаты стаяла трыццаць вуллёў, так што мёду да куцці заўсёды хапала. Святочны стол не мог абысціся без грыбнога квасу і аўсянага кісялю. У Лапічах пасля камасацыі не калядавалі. У госці хадзілі толькі да сваякоў. Кожны жыў сваёй сям'ёй. Па-суседску з Наўмовічамі свой хутар мелі Макалі, параднёныя па лініі мамы спадарыні Ніны. Была там цётка Надзя, якую брат маці нашай гераіні ўзяў з суседняй беларускай Галынкі.

— Яна набожная была, — успамінае спадарыня Ніна, — усё ў царкву хадзіла. Мела багагласнік і ведала многа песень, у тым ліку калядных. Цётка Надзя заўсёды клікала нас да сябе. Было нас там сямёра дзяцей, ад нас чацвёра і ейных трое. Да Новага года было прынята нічога не рабіць, дык кожны вечар мы збіраліся на калядныя спевы.

Сямейныя сувязі падтрымліваліся і ўва ўсім пазнейшым жыцці спадарыні Ніны. Ужо дарослыя шматлюдныя грамадкі сваякоў з'язджаліся з Беластока ў бацькоўскую хату ў Лапічы, а потым у Крынкі, куды ў 1946 годзе выйшла замуж наша гераіня.

## Поспех бібліятэкі ў Гарадку

Сёмага снежня 2012 года ў гарадоцкай бібліятэцы — Дыскусійны клуб кніжкі разам з Гарадоцкім цэнтрам культуры сарганізавалі паказ здымкаў і аповеды з падарожжа ў Новую Зеландыю Анны і Адама Паўлоўскіх. Дыскусійныя клубы кніжкі праводзяцца раз у два месяцы. Галоўнай радаснай тэмай апошняга сходу з'яўляецца ўзнагарода, якую здабыла гарадоцкая бібліятэка. Дваццаць першага лістапада ў Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства адбылася канферэнцыя публічных бібліятэк *Разам можам больш — партнёрскае супрацоўніцтва бібліятэк у лакальным асяроддзі*, сарганізаваная Падляшскай ксёнжніцай імя Лукаша Гурніцкага пры супрацоўніцтве з гэтай установай. Падвялі таксама конкурс для бібліятэчных лакальных партнёрстваў, у якім гарадоцкая бібліятэка заняла другое месца і атрымала ва ўзнагароду тысячу злотых. Бібліятэка заявіла да конкурсу праект, які вяла з гімназічнай моладдзю Комплексу школ у Гарадку імя Роду Хадкевічаў „Наш свет — знаёмлюся з журналісцкім майстэрствам". Партнёрамі гарадоцкай бібліятэкі былі мясцовыя ўстановы — Гмінны цэнтр культуры, Комплекс школ і Гмінная ўправа да прыватныя асобы Ніна Маркевіч (радная) і Станіслаў Дамброўскі (паэт).

— Лакальнае партнёрства гэта спосаб дзеяння абаперты на супрацоўніцтва лакальных устаноў, арганізацый і жыхароў, — кажа Кацярына Рогач. — З'яўляецца яно вялікім шанцам на павелічэнне грамадскай актыўнасці і на лакальнае развіццё.

— Гэтае супрацоўніцтва трэба наладзіць, само не наладзіцца, — падтакваюць чытачкі, якія прыбылі на дыскусійны клуб кнігі.

Альжбета Мялешка-Яроцкая:

— Я ў бібліятэцы працую 22 гады, Кася Рогач — тры. Маем філіял у Залуках, вядзе яго Гражына Грыка (працуе трыццаць пяць гадоў). Наша ўзнагарода пайшла на кніжкі. Накупілі мы кніг, навінак для чытачоў. Маем аддзел для дзяцей, пазычальню для дарослых — у наступным памяшканні, і чытальню ды камп'ютарную міні-майстэрню. Агулам маем пяць камп'ютараў у бібліятэцы, два з іх пазычаныя для чытачоў. З лікам чытачоў у нас бывала па-рознаму. Цяпер наступае рост іх колькасці. Цяпер чытаюць больш якраз не дзеці, а пенсіянеры. Шукаюць перш за ўсё навінак, і старога добрага чытання — класікі. Не толькі школьныя чытанкі для моладзі, але і дарослыя чытаюць класіку. Чытаюць Дастаеўскага, вяртаюцца да Крашэўскага (можа і таму, што адзначаўся Год Крашэўскага), Осцін. Цяпер перш за ўсё т.зв. „жаночая літаратура", лёгкая, раманы для жанчын, сенсацыя для мужчын. Найстарэйшы чытач — 82-гадовы мужчына, які прыязджае на лета ў Гарадок з Варшавы. А з нашых — Альдона Вісьніцкая з Грыбаўцоў; мы ёй камплекты кніжак ужо дастаўляем самі, таму што не можа ўжо выйсці з хаты, яна 1933 года нараджэння. Прыходзяць сюды часта спявачкі з „Асенняга ліста". Гэта адны з найстарэйшых нашых чытачоў. З наймалодшых маем дашкольнікаў і малеч! Маем чытачоў, якія яшчэ не чытаюць! Хочам стварыць „Куточак малечы" для наймешых чытачоў, дзе ёсць таксама кніжкі-цацкі, каб ад найменшага ўзросту прывучаць да кнігі і бібліятэкі, да сяброўства з кнігай...

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# Яслі паводле вучняў з Міхалова

Пасярэдзіне залы на каляровым дыване ляжыць мужчына (тут Кандрат Казлоўскі) у сіне-шэрай кашулі ў клетку. Блукаючы вачыма навокал час ад часу пазяхае, пракручваецца. На канец, закінуўшы нагу на нагу, падпёршы рукой галаву, выгадна адпачывае. І так пэўна бацька ляжаў бы да самай ночы, калі б жонка (Эвеліна Шчапкоўская), усхваляваная падрыхтоўкай да святаў, не пагнала мужа да работы. З такой сцэнкі пачынаюцца „ясэлкі" дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову ў Пачатковай школе ў Міхалове.

Яшчэ перад выступам усхваляваныя дзеці бегалі па гімнастычнай зале, дзе была падрыхтавана адпаведная сцэнаграфія — шопка з сенам, над якой вісела віфлеемская зорка. Можна было адгадаць, якія дзеці выступяць у беларускамоўнай частцы спектакля. Знаёма апранутыя ў доўгія спадніцы і каляровыя квяцістыя хусткі дзяўчынкі, хлопцы ў цёплых байкавых кашулях адрозніваліся сярод іншых удзельнікаў.

— Паглядзіце, якія ў мяне файныя боты, — ганарылася Эвеліна, выцягваючы нагу з-пад доўгай спадніцы. — У гэтых папуцях яшчэ мая бабуля хадзіла! А спадніца ад маёй цёці, блузка маміна, шкарпэты купленыя ў Беластоку на вакзале.

Вопратка давала ўражанне нібыта знятай з вясковай бабулі-элеганткі. Дзяўчат у прыгожых хустках і фальбоністых спадніцах было больш.

— Але мы не ўсе будзем іграць бабуль, — рашуча патлумачыла Эвеліна. — Відаць, хто будзе бабуляй, а хто дачкой, таму што бабулі хустку завязвалі спераду, пад барадой, а маладыя дзяўчаты вязалі хустачку ззаду.

Сапраўды ў беларускамоўнай частцы ясляў выступіла сям'я ў складзе бабуля, маці, бацька і сямёра дзяцей, у тым ліку пяць дзяўчат. І хаця сцэнка пачалася ад лянівага бацькі, пазней усе супольна рыхтаваліся да вілейнай вячэры. Дзеці прыхарошвалі ёлку, маці рыхтавала традыцыйныя стравы, а сам бацька паклапаціўся пра ёлку і сена, якое абавязкова апынулася пад абрусам. На канец сям'ю наведаў Дзед Мароз, які ўсім прынёс падарункі. Сцэнка прадстаўляла тыповую беларускую каляду.

— Калі мы рыхтаваліся да выступу, размаўлялі пра гэта як сёння выглядае вілея ў паасобных сем'ях, — адзначыла настаўніца Альжбета Раманчук. — І вучні дагледзеліся такіх жа традыцый у сваіх дамах. Мы рыхтаваліся даволі доўга, два месяцы раз у тыдзень была рэпетыцыя. На пачатку дзеці вывучалі тэкст. Трэба было выправіць усе моўныя памылкі. Вядома, гэта для дзяцей было штосьці новае.

Хлопцы і дзяўчаты прызналіся, што замяняліся між сабою ролямі, якія мелі сыграць, каб быць упэўненымі што добра сябе ў іх адчуваюць. Яслі дапоўніў выступ Наталькі, якая праспявала вельмі складаную калядную песню „Ціхая ноч над Палесцінай". Вядома, маладыя акцёры на канец атрымалі бурныя воплескі.

Думаю, што кожны святы Мікалай ці Дзед Мароз, які ўбачыў гэтую сцэнку або прачытаў аб ёй у „Ніве", не быў і не будзе абыякавым і трапіць да дзяцей з Міхалова!

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**






## Свята

Адам ХАРКЕВІЧ

Іскрыць мароз і вее вецер,
А з неба злятае сняжок.
Усё гэта абазначае,
Што надыходзіць Новы год.

А з Новым годам і Каляды —
Вялікае свята на зямлі.
А як Каляды, то й абрады,
Якія ёсць у маёй сям'і.

У куточку ў кухні снапок збожжа,
У пакоі ёлачка стаіць,
А дзеці ў сенях на парозе
Той першай зёрачкі глядзяць.

Стол накрыты ўжо белым абрусам,
На ім дванаццаць страў стаіць
А пад абрусам — так як калісьці —
Пахучае сенка ляжыць.

Усе святочна ўжо адзеты,
Сядаем згодна за той стол
Ямо куццю, спяваем калядкі
І дзякуем Богу за той год.

## Рыбін Луг

Ці чуў хто, каб рыбы жылі ў зямлі? Пра гэта ведаюць жыхары Забалацця, што ля Будзвілоўскага лесу. Даўно-даўно там знаходзілася чырвонае возера. Мясцовыя людзі лічылі яго святым. Сюды ўліваліся рачулкі і ручаі з Белавежскай пушчы. Ніхто не мог злічыць усіх відаў рыб, паўзуноў, гадзюк і раслін, якія жылі ў тонях возера. На берагу возера жыла чараўніца Руска. Яе хаткай была пятка голай зямлі і старая альшына. Меса ацяпляла энергія з глыбі зямлі. Руска любіла прылегчы на голую зямельку і слухаць мову зямлі, вады і неба. А ўжо найбольш падабалася зіма, калі з глыбі скаванага лёдам возера раздавалася касмічная музыка.

Дарогу да нябачнай хаткі ахоўвалі клятвы, таму вандроўцаў заўсёды нешта зводзіла з дарогі, пужала. Ніхто не ўмееў запамятаць дарогі. Нягледзячы на перашкоды, сюды цягнулі хворыя людзі і звяры за дапамогай. Кожны з іх атрымаў лякарства. Але прыйшоў цяжкі час.

У адно спякотнае лета возера пачало ніiкнуць у вачах. Яно меншала не па днях, а па гадзінах. Руска чула як плачуць у возеры рыбы, бачыла як вянуць гарлачыкі і ўцякае вадзяное птаства. Чарадзейка не ўмела ім дапамагчы. Ад гора яна пастарэла ў адну ноч на сто гадоў. Яе клікалі жыць у вёску. Чарадзейка рашыла не пакідаць гібеючага возера.

— Боканька, ацалі ўсе рыбы, паўзуны і расліны! — паўтарала ўсю ноч Руска, аж зморыў яе цвёрды сон. Здавалася, ён трываў сто гадоў.

Раніцай, калі Руска расплюшчыла вочы, на месцы чырвонага возера пабачыла квяціста-зялёны луг. З глыбі зямлі даходзіла музыка, і Руска зразумела, што жыхары святога возера не памерлі. Ад шчасця яна заплакала. А сама распусціла валасы і зрабілася рачулкай, якую людзі назвалі яе іменем. І хоць ад той пары мінулі ўжо тысячы гадоў, жыхары Забалацця вераць, што ў зямлі, дзе вакол іх хутара шырокай плахтай распасціраюцца балотныя лугі, жывуць казачныя рыбы. Пра гэта ведаюць таксама касцы, якія пасля працы кладліся адпачыць на зямлю. Яны чулі музыку з глыбі зямлі і чамусьці думалі пра рыб.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Суперзорка, торт і фотасесія

16 снежня 2012г. у кавярні „Esperanto Cafe” ў Беластоку прайшло падсумаванне Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют-2012”. Хоць на панадворку было холадна і не кожны ўдзельнік прыбыў, мы ўсе цудоўна правялі час. Прыйшла на гэтую сустрэчу нават тэлевізія. Пасля кароткага прывітання прыйшоў час узнагародзіць удзельнікаў. Перамажцы чыталі свае творы, а іншыя людзі слухалі з цікавасцю. За першае месца можна было атрымаць талоны на суму больш за 450 злотых, за другае — талоны на суму 350 злотых, а за трэцяе месца — купоны на суму 250 злотых. Але арганізатары не забыліся пра тых, што вельмі стараліся. Хто не заняў месца, дастаў талоны на суму 50 злотых, а ўсе ўдзельнікі атрымалі кнігі, майку і газету „Ніва”. Гэтыя талоны могуць быць рэалізаваны ў кніжных магазінах „Дом кнігі”. У першай групе ўсе першыя месцы занялі вучні з Нараўкі. Найбольшую цікавасць прыцягнулі вершы Лукаша Марчука, які даслаў свае творы пад псеўданімам „Барыс” і заняў першае месца. Кожны журналіст хацеў узяць

Фота Міры ЛУКШЫ






у яго інтэрв'ю. Сябра сказаў, што ён адчуваў сябе як суперзорка. Пасля афіцыйнай часткі кожны ўдзельнік хацеў падзяліцца сваімі ўражаннямі і паказаць узнагароды. Прыслухоўваючыся да прыгожай ігры на гітары і песень у выкананні неверагодна таленавітых людзей, любы жадаючы мог пачаставацца прысмакамі або фруктамі. У канцы сустрэчы быў торт і фотасесія. Усе вярнуліся дахаты шчаслівыя і з галавой поўнай ідэй для новых прац, шкадуючы, што так хутка з'елі смачны торт.

**Аня БЯЛЯЎСКАЯ**
**I клас гімназіі ў Нараўцы**

# Музыка з кайфам

## Або-або: «Ілі-ілі»



http://www.lastfm.pl

Ці не ведаюць куды падацца? А можа нам, слухачам, даюць выбар, бо, здаецца, яны вырашылі даволі канкрэтна...

«Ілі-ілі» гэта даволі новы гурт. Зусім лічаць, што былі заўважаны... Знавалі яго музыкі, якія раней складалі вельмі яркую каманду. «Дзецідзяцей» гэта для многіх быў артыстычны кайф, асабліва з моманту, калі Ганна Хітрык пачала спяваць па-беларуску. Цудоўная сцэнічная крэацыя, вялікая энергія і можа таму, што энергіі было зашмат, яна дзесьці разгубілася, або казала музыкам пайсці ў розныя бакі. «Soundиk» — гурт, у якім лідарам з'яўляецца Ганна Хітрык, можна сказаць працягвае дзейнасць вельмі падобнага кшталту. Другая частка, у якой апынуліся Міхал Зуй і Дзіма Есяневіч, працуе ў крыху іншым напрамку.

«Ілі-ілі» ў новы год уваходзяць з першым альбомам. Музычныя крытыкі прад'яўляюць пару засцярог, якія і я магу падтрымаць, але ў асноўным атрымліваецца цікавая музыка. Напэўна можна адчуць, што хлопцы так доўга шукалі, што знайшлі, а пасля згубілі... Бязмоўна доказам іх таленту як кампазітараў ці аранжыроўшчыкаў з'яўляецца песня «v.v.». Гэта адзіная песня на альбоме запісаная на беларускай мове. І нясе яна, проста нясе і хочацца яе слухаць. Ужо не першы раз аказваецца, што песня на беларускай мове мае незвычайную моц, што так выдатна складаецца з музыкай, што іншы варыянт не існуе.

«Ілі-ілі» свой дэбютны альбом назвалі «Past Perfect». Можам тут на момант прыпыніцца, бо нейкая таямніца за гэтай назвай скрываецца і можам толькі яе здагадвацца. «Past Perfect» гэта адзін з часоў англійскай мовы, можа не выкарыстоўваны так часта, але важны. Адкліка нас да мінуўшчыны і гаворыць пра закончанае трыванне. Няк найпрост здаецца, што першы альбом новага гурту закрывае час праведзены з «Дзецідзяцей», але сама музыка таксама падказвае, што маем дачыненне да зусім іншага.

Ступаю так наўкола гэтай музыкі, бо і мне цяжка вызначыць жанр, пра які некаторыя гавораць, напрыклад, альт-поп. Я прапаную паслухаць «Ілі-ілі», каб даведацца ў якіх напрамках зараз ідуць беларускія эксперыментатары. Найважнейшае, што межаў быццам паменшала, прынамсі ў музыцы.

**i_basovka@o2.pl**



# Конкурс пра зіму (1)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Ад якога слова ўзяў назву месяц студзень?**
а) ад холаду сцюжы,
б) ад сутыкнення новага і старога года.
в) ад імя рымскага бога Януса

**2. Які слаўны юбілей будуць адзначаць беларусы Беласточчыны на працягу 2013 года?**
а) 55-годдзе літаратурнага аб'яднання „Белавежа”,
б) 100-годдзе першай беларускай кніжкі,
в) 56-годдзе „Зоркі”.

**3. Якія звяры выступалі ў падляшскіх калядных карагодах, ладжаных з 13 на 14 студзеня, у Шчодры вечар?**
а) леў, конь, сініца,
б) каза, конь, бусел,
в) кот, мядзведзь, бусел.

Адказы на конкурс дасылайце да 30 студзеня 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”).

**Адказ на конкурс № 34:** 1 — Каспар, Мельхіёр, Бальтазар (б); 2 — дуда; 3 — калядкі вывучаюць ад свята Увядзення ў храм Прасвятой Дзевы (4 снежня).

Узнагароды — майкі з лагатыпам „Нівы” — выйгралі **Паўліна Лаўнічук, Іаанна Лукша** з Нараўкі, **Якуб Голец, Адрыянна Бакер, Габрыеля Торка** з НШ св. КіМ у Беластоку. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Польска-беларуская крыжаванка № 1

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 49:**
Дух, хамяк, капуста, запусты, пах, аўра, Ян, эх, туман, ха, рыс, твар. Каптур, храпа, мы, пух, Ас, хлус, Ян, стан, матыў, рэха, Захар. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Лукаш Марчук, Адам Харкевіч, Мілена Яцкевіч** з Нараўкі, **Эмілія Раманчук, Патрык Мартынюк, Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Жырчук-Жар** з Орлі, **Габрыеля Торка, Матэвуш Бурачэўскі, Марыся Сіроцкая** з НШ св. КіМ у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Gołębie / Mak | | | | | | | Marynarz |
| | As | | | Brat / Mięta | | Młody | |
| | | Swat | Mama / Wieczór | | | | |
| | Duchowny / Sukces | | | | | | |
| Świat | | | | | La | | |
| Początek | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| Fotos | | Racja | | | | | |

Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ

## МУЗЫКА ВОСЕНІ

Па дахах кроплямі дажджу
Іграе восень такты танцаў,
Адзела неба ў параджу,
Блакіт закрыла і бляск сонца.

А вецер, быццам хуліган,
Як п'яны скача між дамамі,
Пужае нас, што ураган
Засыпле хутка ўсіх снягамі.

Лістоту ён зрывае з дрэў,
Яе ганяе для забавы,
Чуць за акном ягоны спеў,
Змяняе тэмбры і актавы.

Губляе золата лісцё,
Янтар пакрыўся чорнай сажай
Галіны плачуць, як дзіцё,
Па страце летняга багажу.

Іграе восень у акне,
Ад ветру звоняць шыбы ў хаце,
Чуць, як танцуе па сцяне,
Ці ў ботах цяжкіх на канаце,

Кідае ў шыбы ручаі
Дажджу, плывучага з-пад хмары,
А на галінах вераб'і
Шумяць, крычаць, як на базары.

Нясуцца за сцяной наўкол
Асенняй музыкі акорды,
Без песні птушак, шуму пчол
Яны ў прыродзе б'юць рэкорды.

## У СНЕЗЕ РОДНАЯ ВЁСКА

У снезе ўтапілася родная вёска
Тырчаць толькі ў белі рады камінОў
І з кожнага коміна шэрай палоскай
Да неба плывуць сотні яркіх дымоў.

Карцінкамі вокны мароз упрыгожыў,
Глядзяць яны белай разьбою на свет,
Любуецца кожны далёкі прахожы,
Як кветкавы бачыць на шыбах букет.

Бялеюць на дрэвах усюды галінкі,
Папахамі белымі ззяюць сады,
А вецер над імі танцуе лезгінку,
Спявае ім песні, як бард малады.

Ён з ягад чырвоных на згрябных рабінах
Паскідваў пушысты бялеючы снег,
Яны, як каралі вісяць на дзяўчынах,
І чуюць дзяцінны і радасны смех.

За пунямі бачуць з'язджае на санках,
З гары, адкуль сыплецца летам жарства,
У цёплай адзежы і ў шапках вушанках
Са смехам і крыкам ад ранку дзятва.

Бабры залілі тут вадою луг цэлы,
Цяпер замяніў яго ў люстра мароз,
Дзесяткі на ім бачуць хлопцаў спацелых
І кожны з іх чуецца, як віртуоз.

Вароны высока сядзяць на таполях
І каркаюць голасна з самых вяршынь,
Бо вельмі не цешыць іх бель наваколля,
Калі спаглядаюць яны ўдалячынь.



■ Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Прыгожыя словы і найгоршая магіла

**Гэтай навіны я чакала ў хваляванні два тыдні. Усё ляцела з рук, у галаве панаваў хаос як перад напісаннем важнага твора, калі ў працэс уключаецца метафізіка. Урэшце пасля пятай вечара зазвінеў званок, прыйшла жаданая эсэмэска. Радны горада Беластока Славамір Назарук іфармаваў:** ***Uchwała podjęta — za 21, przeciw 0, wstrzymało się 0, reszta nieobecna...*** **Не менш усцешылі словы спадара Назарука, якому я пазваніла з падзякай за добрую навіну:**

— Гэта наша супольная справа, — адказаў.

Справа датычыла ўвекавечання памяці кампазітара Яна Тарасевіча. Якраз 17 снежня 2012 г. радныя горада, ужо адвячоркам, адсвяткаваўшы ў той дзень экуменічную Вілею, аднагалосна прагаласавалі за прапанову Форуму меншасцей Падляшша, каб імя беларускага музыканта прысвоіць дарожнаму колу ў квартале Выгода. Здавалася б, звычайная справа, так павінна быць, так прынята ў цывілізаваным свеце. Ян Тарасевіч на такі жэст поўнасцю заслужыў. З Беластокам быў звязаны ад пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя, тут таксама жыў у 1947-1961 гг. У Беластоку скампанаваў шмат твораў,аднавіў кампазіцыі, якія загінулі ў пажарышчах войнаў, паўплываў на лёс многіх вучняў. Чатырох з іх будуць прыняты ў Звяз польскіх кампазітараў (ZKP). Гэта Тэрэза Казакевіч-Адамчык, Збігнеў Папельскі, Міраслаў Кулікоўскі і Ежы Максымюк. Апошні, дырыжор сусветнай вядомасці, пра Тарсасевіча сказаў: *Ежы Максымюк, якога ведаеце, гэта заслуга прафесара Тарасевіча. Ён першы пабачыў мой талент, сфарміраваў мяне як музыканта ды завёз у Варшаву і аддаў вучыцца ў найлепшыя рукі.*

Ян Тарасевіч, таленавіты музыкант, эрудыт, педагог, чалавек рэнесансу, піяніст можа прамаўляць як жывы сімвал талерантнасці. Гэта даказалі мае героі, прадстаўнікі розных нацыянальнасцей, пакаленняў і грамадскіх класаў у даследчыцкай кніжцы „W stronę Tarasiewicza".

* * *

Я ўдзячна і абавязана перад спадаром Назаруком. Ідзе пра добры настрой зразумення, у якім матэрыялізавалася ідэя прысваення імя. Усё адбылося гладка і хутка, літаральна на працягу двух тыдняў. Здавалася б, у горадзе толькі чакалі такой прапановы...

Аднак я добра ведаю, што ўсе падзеі, звязаныя з адкрыццём асобы Яна Тарасевіча, маюць свой рытм, выспяваюць згодна з унутранай логікай тэмы, кампануюцца ў гарманічны лічбавы код, характэрны вышэйшым сэнсам. Падабаецца мне, што вяртанне Яна Тарасевіча ў Беласток адбудзецца ў 120-гадавіну з дня яго нараджэння. Цягам 2013 года планаваны міжнародны фестываль, і гэтае здарэнне бачу няйначай як паслядоўнасць вышэйшага сэнсу. Успамінаецца марудная рэканструкцыя біяграфіі, перашкоды і чорныя страсці вакол асобы музыканта. З маёй перспектывы дваццаці гадоў жыцця з тэмай шмат фактаў і сітуацый былі нанова асветленыя, выпраўленыя, патлумачаныя з дапамогай крыніц. Таму мне дзіўна, што ў Беларусі паўтараюць мой першы, яшчэ не дапрацаваны даследчыцкі матэрыял, дзе шмат няяснасцяў і памылак. Гэты факт горка ўсведамляе, што цягам гадоў там не праводзіліся біяграфічныя доследы. Апошняя заўвага датычыць, напрыклад, прысутнасці піяніста на царскім двары. У святле захаваных дакументаў аказалася, што не быў ён настаўнікам царскай дачкі, а толькі...

Менавіта ўсё гэта і шмат іншых дэталяў ды інфармацый мне хацелася напісаць у новым папоўненым выданні кніжкі „W stronę Tarasiewicza". Мая іншая мара — каб кніжка ўрэшце выйшла на беларускай мове. Вельмі прыкра, калі твае доследы прыпісваюць сабе іншыя аўтары. У інтэрнэце я знайшла біяграфію Тарасевіча, якую скапіраваў англамоўны „даследчык" і засцярог свае правы як першы аўтар біяграфіі сакольскага музыканта. Небарака перапісаў менскі нарыс з усімі памылкамі і недарэчнасцямі і гэта прамовіла як дурнота ў чыстай форме.

* * *

Узрушыў мяне заклік маладога журналіста Лукаша Леанюка, які намаўляе нашых чытачоў чытаць маю кніжку. Сам ён ужо некалькі разоў прысутнічаў у мерапрыемствах, прысвечаных Тарасевічу і, мабыць, адчуў шчырую ангажаванасць людзей, якія, не шкадуючы часу і сродкаў, рабілі магчымае і немагчымае для справы...

Са здабычай кніжкі можа аднак атрымацца праблема. Першае выданне выйшла ў друку ў 2002 годзе, праз нейкі час кніжку можна было набыць у „Ніве" ды ў беластоцкай кнігарні „Акцэнт". Нягледзячы на рыначнае абмежаванне і прымітыўны дызайн, яна разышлася цягам некалькіх месяцаў. Другое выданне прафінансаванае было Беларускім гістарычным таварыствам. Аб'яднанне такім чынам аддзячыла за падарунак, канкрэтна за піяніна і частку архіва, якія напрыканцы жыцця перадаў на мае рукі вучань кампазітара Анатоль Чарапінскі з Любліна. На жаль, сімвалічныя сродкі Беларускага гістарычнага таварыства не спрацавалі ў карысць эдытарскага ўзроўню выдання. Другое выданне аказалася яшчэ горшым чым першае. Аднак і гэтая кніжка разышлася ды нават трапіла да жаданага чытача, што ў сваю чаргу спрычынілася да многіх ініцыятыў і мерапрыемстваў у працэсе адкрывання кампазітара.

З майго пункту гледжання вельмі шмат зрабілася ў нас на працягу апошніх дваццаці гадоў для вяртання асобы і творчасці Яна Тарасевіча. Мы добра мерытарычна падрыхтаваліся на момант сустрэчы з дырэктарам Раберта Скальмоўскім, які з'явіўся ў Беластоку ў добры час і шчыра зацікавіўся музыкантам. Зараз застаецца падтрымваць яго ў цудоўным рашэнні, дапамагаць у распаўсюдзе інфармацыі пра падзею. Каб гэта спрацавала і дапамагло жыхарам Падляшша стаць лепшымі.

Аднак словы Славаміра Назарука, які толькі ў пачатку снежня г.г. адкрыў для сябе кампазітара, балюча вярнулі мяне на зямлю. Бо праўда такая — абсяг беларускамоўных медыяў сціплы і закрыты. Іх энергія залежыць ад сродкаў і магчымасцей людзей, якія заўсёды ў нас недастатковыя.

Таму замест прыгожых слоў і прызнання ад палітыкаў і падляшскіх амбасадараў культуры мне хацелася б дачакацца рэальнай дапамогі, прынамсі прыстойнага выдання і прафесійнай помачы ў прамоцыі кніжкі. Да гэтай пары спробы перавыдання кніжкі з дапамогай гарадскога бюджэту былі ў Беластоку праігнараваныя. Не менш балючай справай застаецца праблема аднаўлення магілы Яна Тарасевіча і яго родных. Не можа быць так, што ўсе будзем захапляцца асобай цудоўнага мастака, хваліць яго талент і аднпчасова закрываць вочы на рэальныя праблемы. На сённяшні дзень магілка мастака найгоршая на цэлых сакольскіх могілках.




# Аля, грыль ужо згас!


Аляксандра САСНОВА

## 1.

Аля і Грыша сённяшняй беларускай перадачы Радыё Рацыя чакалі ў настроі больш радасным, чым заўсёды. Здавалася нават, што бацька апрануў лепшую кашулю, а маці спякла кавалак замарожанай пад нагоду качкі і памяняла абрусок на стале. Гучна ніводнае з іх не сказала пра гэта словам, але абое ведалі, для чаго гэтыя падрыхтоўкі.

Наймалодшая дачка пару дзён таму на Фейсбуку ўкінула інфармацыю, што з нагоды юбілею 35-годдзя шлюбнага жыцця сваіх бацькоў яна выслала пажаданні ў „Пажадальную песню" ў беластоцкае радыё. Праўда, 35 гадоў, ад цёплага ліпеньскага дня ў 1977 годзе, мінала якраз цяпер. Гады прайшлі незахутка, незапавольна.

Святкаванне было двайное — нядаўна завяршыўся рамонт іхняй хаты. Уклалі яны ў яго не толькі шмат грошай, але і сэрца. Ужо некалькі турыстаў пыталася, ці гэта не на продаж.

Першыя пажаданні былі, здавалася ім, доўгія, як і песні пусканыя вядучымі. Не дачакацца! І як то ў жыцці, у чаканы момант, хтосьці стукае ў дзверы — быццам у фільме. Аля і Грыша нават не пракаментавалі гэтага варварскага набегу на іхнюю хату і святкаванне пры радыёпрыймачу. Павярнулі толькі галовы ў бок дзвярэй, з якіх хутка выхінулася трое людзей.

— Добры вечар! — крыкнула папольску жанчына ў чырвонай сукенцы. — Мы прыйшлі пазнаёміцца з вамі, калі ласка. Гэта Зузя і Рысек з Кракава, будуць жыць тут з вамі па-суседску...

— А няхай іх! — падумаў Грыша.

— ... а я з'яўляюся іхняй сяброўкай, таксама з Кракава. Вы, напэўна, добра ведаеце, што яны купілі хату побач вашай.

— ... да цёплых пажаданняў ад дзяцей Мішы, Ані і Тамары Дусюк далучана песня „Толькі з табою", — з радыёпрыймача ляцеў голас Юркі Ляшчынскага.

— О! Слухаеце расейскае радыё? Цікава! Ха, ха, якая міжнародная атмасфера! — тут Аля зірнула на мужа і пабачыла, што Грыша адчувае дакладна тое, што і яна. Ягоныя шчокі былі такія ж чырвоныя як у момант, калі даведаўся, што ўкралі яму самаход у Варшаве.

— Чагосьці вам трэба? — прасіпеў праз зубы Грыша.

— Можа гарбаты? — запрапанавала Аля і адчула на сабе пякучы позірк мужа.

Госці штосьці ажыўлена зашваргаталі і ўжо садзіліся за стол.

— Яны хацелі б пазнаёміцца з вамі, а я тым больш, бо Зузя і Рысек праз два тыдні едуць у Кракаў, а я застаюся на месцы і буду займацца рамонтам хаты, — працягвала кабета ў чырвонай сукенцы, а здавалася, што яе сябры не ўмеюць гаварыць. Яны ўвесь час усміхаліся іківалі галовамі. У час, калі Аля рыхтавала гарбату, чырвоная сукенка не сціхала ні на хвіліну. Яна расказвала, як дапамагла знайсці адпаведную хату на Беласточчыне для сяброў і якую важную місію яны, супольна, будуць рэалізаваць. Менавіта, яны як эколага-этнографы-інжынеры будуць працаваць дзеля аховы неацэнных скарбаў Беласточчыны. А першым крокам будзе рамонт хаты, якую бачыў і рэкамендаваў таксама культуразнаўца з Ягелонскага ўніверсітэта. Яго карані выводзяцца з Луцка, а ягоная жонка...

— Так то адно іегавісты гавораць, — шапнула Аля. Раптоўна пазваніў тэлефон.

— Так, слухаю? — падняў трубку Грыша. — Ну, дзякуем, дзякуем. Не, не чулі. Ну, прыйшлі э-э-э суседзі. Не, не Паўлючукі. Э-э-э, з Кракава. Не, мы ў хаце. Мы таксама не ведалі. Ну, добра. Так, шкадуем. Ну, пакуль.

— Аня? — спыталася Аля.

— Міша, — адказаў муж.

— Праўду кажучы, — пачала чырвоная сукенка, — мы прыйшлі, каб запрасіць вас да нас на грыля, на заўтра. Каб крыху лепш пазнаёміцца. Дзякуем, да пабачэння.

## 2.

— Пах падгніўшай драўніны супакойвае мяне. Вас таксама? — спытаўся новы гаспадар хаты нумар 39. — І таму мне цяжка кідаць такое дрэва ў агонь.

Рысек з'яўляўся чалавекам, які ў старых дошках і дрэвах бачыць гісторыю людзей, якіх жыцці прабягаюць паміж гэтымі часткамі прыроды.

— Я веру, што жыццё жыхароў драўлянай хаты больш узнёслае, шчырае, што дошкі не абмяжоўваюць душы, а наадварот, складваюцца на прастору, у якой воля, праўда і мастацкая радасць праліваюцца і ўнікаюць у сэрца. Мне здаецца, што ў чалавека, які жыве ў такой хаце, разуменне мінулага вельмі натуральнае. Не думаю пры гэтым, што мінанне абазначае пастаяннае думанне пра смерць. Не. Прырода толькі прыбліжае пачуццё, што жыццё як дрэва, калісь пераломіцца, — гаварыў ён.

— Як вам падабаецца гэтая соевая каўбаса? Я і Зузя ашаломлены гэтым вырабам, — цешылася Марта, тая дзяўчына ў чырвонай сукенцы.

— Цікава паспрабаваць. Неўзабаве дастанем нашу каўбасу, бачок... — усміхнулася Аля.

— Я вельмі шкадую, што вы не хочаце пачаставацца ні мясам, ні гарэлкай, — уздыхнуў Грыша.

Складаныя рашэнні цяжка перакладальныя. Кракавяне ведалі яшчэ адно. Складаныя рашэнні цяжкія ў рэалізацыі.

— Мой бацька кажа, што толькі хворы не есць мяса і не п'е, — усміхнуўся Рысек, а ў кішэні зацісснуў кулакі.

— І Зубік так казаў. А ведаеце, хто гэта? — спытаўся Грыша. — Зубік паставіў гэтую хату.

Рысек часам марыў, што падае на калені перад маэстра, які паставіў яго хату. Ён быў у яго ўяўленні дырыжорам аркестра самага знакамітага ў свеце — Берлінскага аркестра, упэўненым, што мае дачыненне з найлепшымі музыкамі і разам з імі стварае ючым працу. Зубік гучыць малараматычна, затое сур'ёзна.

— Вы яго ведалі?

— Ведалі. От, нармальны чалавек, трохі п'яніца.

— Калі паставіў такую хату, напэўна быў добрым майстрам, — не траціў надзеі Рысек. Зубік быў амаль міфічнай асобай, яго бессмяротная слава сягала глыбей чым дно бутэлькі. Напэўна!

— Някепскім. Яго слава не сягала далей чым агарод гэтага панадворка. Тут амаль кожны ставіў хату сам, — цягнуў Грыша. — Ой! Аля, грыль ужо згас!

## 3.

У дзень, у які Зузя і Рысек рашылі вяртацца да сваіх штодзённых абавязкаў, паявіліся журналісты з нейкага горада на захадзе Польшчы. Здараліся гэтыя візіты ў апошні час штораз часцей, а людзі ў ваколіцы ўжо не дзівіліся, што хочуць з імі гаварыць не толькі журналісты з „Беларускага тыдня".

— Як вам тут падабаецца? — спыталася Марта ў журналістаў.

— Цікава. Ведаеце, мы тут першы раз. А заўтра ўжо едзем, так што, калі ласка, так як гаварылі... Пане Рыську! Можна?..

Гаспадар сеў на пяньку і кляпаў касу. А калі яна здавалася быць ужо навостранай, стаў касіць траву.

— Адмыслова! — крыкнуў журналіст. — А там за клуняй не маеце паваленай агароджы? Маю ў галаве першыя кадры фільма!

— Давайце пабачым!

Агароджа за клуняй была ў даволі добрым стане і толькі некалькі жэрдак ападала на зямлю.

— Чароўна! Добра, пане Рыську! Цяпер будзеце ісці да канца агарода, але так, каб не трымаліся агароджы заблізка, недзе метраў з два ад яе. І будзеце праціраць дарогу. Разумееце?

— Так.

— Панове! Пачынаем!

Аказалася, што Рысек скасіў траву недастаткова добра, так што журналісты дапамагалі ўтаптаць сцежку. У фільме яна выглядала добра. Яшчэ прыгажэй выглядалі Марта, Зузя і Рысек.


Паўліна БЛЯЯЎСКАЯ

# Слёзы

Ніхто не памятаў як гэта было даўно, калі Рагнеда Скепка пахавала сваю дачку. Шмат часу, гадоў мо дваццаць таму. Справа ў тым, што глядзеўшы на яе, здавалася, што гэта было быццам учора — хвароба Анулі і вялікая матчына пакута.

Жанчына, хаця ёй было толькі шэсцьдзесят гадоў, была зусім сівая, а валасы, закручаныя ў касу, трымала пад чорнай хусткай. Вочы сумна спаглядалі навокал, быццам нічога не бачыўшы. Згорбленая Рагнеда ішла штодзённа жвіровай дарожкай на могілкі. Так яе свет маляваў.

Перастала сябраваць з іншымі і зачынілася ў драўлянай хаціне, жывучы ў ёй як пустэльніца.

— Ужо не магу дзівіцца! — гаварыла хрышчоная маці Анулі. — Што яна выпраўляе! Яшчэ адно не хапае, каб перастала есці дык і сябе павядзе ў магілу!

Толькі кума мела кантакт з хворай.

Рагнеда махала рукою і ўсё толькі думала: „Адкуль я вазьму грошай на лампаду і кветкі для сваёй дзяўчынкі? Людзі зрабілі з мяне дурня". Ведала, што можа і дзіўна выглядае, хадзіўшы на могілкі, молячыся за Анулю, але для яе людзі былі непатрэбныя. Не вернуць жа ж людзі яе дарагую дачку! Яе пакуль ніхто не ведаў, адзінока праводзіла дні, лічучы слёзы за мёртвай дачушкай. Яе туга здавалася быць з кожным днём цяжэйшай, а сэрца часам так балела, што думала што разарвецца. „Відаць, пайду я да мужа і Анулі!"

Рагнеда дзень пачынала малітвай, якую ёй даў бацюшка, і яна шчыра выказвала свае пачуцці ў гэтай малітве. Есці ёй не хацелася, раз што не хапала грошай, два — не было часу на ежу. Лепш пойдзе і ля магілы даўжэй пасядзіць! І там, як у хаце, работы было шмат. Стужка з крыжа ўцякала, а побач вырастала высокая трава... Адпачынку не было, усё трэба было рабіць для дарагой Анулькі. Шкода, што яна не можа дацаніць, пасмяяцца-пажартаваць над клопатам старой маці. Ах, колькі слёз Рагнедзе выплыла з вачэй!

Найгорш, аднак, было ўначы. Ахопліваў жаль. І сон быў часта такі жахлівы!

— Не ідзі на магілку сёння, — сказала ёй кума. — Ты хворая, паглядзі на сябе самую, Рагнеда!

Уся вёска глядзела на жанчыну, якая не памірылася са смерцю дачкі. Казалі, што зусім адурэе ад тугі.

На канец наступіла ноч, якая дала свабоду. Зноў мела гэты сон: Ануля ішла з вёдрамі поўнымі вады. Яе твар выкрыўляла грымаса болю. А маці так хацелася ёй дапамагчы! Закрычала: „Ануля, дай мне, табе цяжка!".

— Ты, мама, плачаш па мне і твае слёзы я мушу цягаць столькі гадоў!

Ці гэта быў сон, ці сапраўды дачушка прыйшла да яе?

Але было ўсё як заўсёды: вёска стала, людзі дзівавaліся, а Рагнеда Скепка зноў накіроўвалася на могілкі.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Кароткі лёс Веры Белакоз





Вучні Віленскай беларускай гімназіі, стаіць трэцяя справа Вера Белакоз, 1938 г.

Рыхтуючы кнігу Алеся Белакоза „Музей у Гудзевічах", шмат чуў ад Алеся Мікалаевіча шчырых успамінаў пра ягоную родную сястру Веру Белакоз. Ён заўсёды ласкава называе яе Верачка: „Верачка выкарыстоўвала кожную хвіліну, каб выхаваць мяне патрыётам. Калі мне і ўдалося здзейсніць нешта значнае, то толькі дзякуючы беларускасці Верачкі".

Вера Белакоз нарадзілася 26 ліпеня 1921 года ў вёсцы Юраўляны Крынскай гміны Сакольскага павета на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. З дзяцінства фармаваўся характар дзяўчынкі. Была яна вельмі даверлівай, шчырай, уражлівай да няпраўды. Аднойчы яе маці напякла аладак з грыкі. Вера сабрала дзяўчынак з вёскі і прапанавала: „Я вас пачастую смачнымі грычанікамі, а вы пачастуйце тым, што вам мама нарыхтавала на дзень". Дзяўчаты пагадзіліся. Вера раздала ўсім па дзве аладкі, хаця самой і сястры засталося па адной. А потым пайшлі да сяброўкі Валі. Але Валя забегла дамоў, зачыніла дзверы і нікога не ўпусціла ў хату. А сама села каля акна і пачала есці крупнік. Вера папярэдзіла, што калі Валя зараз жа не пачастуе крупнікам дзяўчынак, так, як дамаўляліся, то яна паб'е шыбы ў вокнах. Але Валя дзвярэй не адчыніла. І ўсе шыбы былі пабітыя. Бацька Веры Белакоз цэлы дзень шкліў вокны суседа.

Вера сапраўды была справядлівай. Алесь Белакоз прыгадвае, што Верачка часам пачастуе ўсіх смачнымі грушамі, то зварыць яйкі і ўсім раздасць, то грошай дасць бяднейшым, якія бацька прывёз з Амерыкі. А калі вучылася ў школе, дапамагала дома дзяўчатам і хлопцам па мове, па матэматыцы. Вось такою расла Вера Белакоз.

Аднойчы было вельмі холадна. І маці Веры Белакоз пабаялася браць дзяцей у поле. Яна пакінула іх дома. Малая Вера знайшла сахарыну і шмат з'ела. З-за гэтага ў яе перастаў працаваць адзін з клапанаў сэрца. Пройдзе дзяўчынка 100-200 метраў і задыхаецца. Прафесар адной з самых лепшых клінік Вільні сказаў бацькам, што Вера пражыве толькі да 18 гадоў, а пасля памрэ. Але гэта будзе пасля...

Скончыўшы школу Вера Белакоз паступіла ў Віленскую беларускую гімназію. У Вільні ёй прапанавалі ўступіць у беларускую засакрэчаную арганізацыю „Жыве Беларусь". І Вера пагадзілася. Дарэчы, у арганізацыю запрасілі толькі 13 самых надзейных юнакоў і дзяўчат. Сярод іх была і Вера. У Вільні сябры арганізацыі „Жыве Беларусь" наладжвалі беларускія вечары, ставілі спектаклі, выпускалі лістоўкі. Калі Вера прыязджала на канікулы ў вёску Ляткі, куды пераехала іх сям'я, збіралася вакол яе мясцовая моладзь. У 1938 і 1939 гадах яна арганізавала ў Лятках купалле. Юнакі і дзяўчаты вёскі і навакольных хутароў прыходзілі да Веры, каб разам паспяваць беларускія песні, паслухаць вершы, даведацца пра віленскія навіны.

У пачатку 1941 года Вера Белакоз вярнулася дамоў і пакінула вучобу, бо даведалася, што іх сям'ю павязуць у Сібір. Але хутка пачынаецца вайна. І мясцовы люд нямецкую акупацыю сустрэў з радасцю, бо бальшавікі нікога не павязуць у Сібір, не пасадзяць у турмы, не расстраляюць, не заганяць у калгасы, не адбяруць зямлі, гумна, каня і кароў.

Неяк прыбягаюць да Белакозаў мясцовыя юнакі Дзіма Жалезняковіч, Юра Ракопчык, Віталь Янушчык, якія вельмі любілі і паважалі Веру. Вера ім кажа: „Хлопцы, я чула, што палякі ўжо даносяць на беларусаў, што мы — камуністы ці камсамольцы. У Лятках ужо расстралялі трох зусім нявінных вяскоўцаў. Мы абавязаны ў самы кароткі час давучыць нямецкую мову, каб маглі зайсці да камісара ці да каменданта, апраўдаць падстаўленага беларуса, выратаваць яго". Алесь Мікалаевіч Белакоз памятае да сённяшніх дзён, як

працяг ☞11




У 2012 годзе пачаўся адлік трэцяму дзясятку гадоў існавання беларускай незалежнай дзяржавы. Ці можна казаць, што прайшоўшыя гады сталі падмуркам для далейшага яе існавання і развіцця? З аднаго боку, калі паўтараць за цяперашнімі беларускімі ўладамі і ўра-патрыётамі з апазіцыйнага лагера, адказ напрошваецца толькі станоўчы. Але з другога, ведаючы пра скарачэнне колькасці беларусаў як у Беларусі, так і за яе межамі, ведаючы пра сапраўднае адміранне беларускай мовы, з горыччу прыходзіцца канстатаваць, што амаль усе два прайшоўшыя дзесяцігоддзі былі папросту змарнаваным часам для нацыянальнага адраджэння і, адпаведна, усталявання трывалай беларускай краіны. І марнаванне гэтае, на жаль, працягваецца.

Але заўсёды хочацца спадзявацца на лепшае. І калі гэтае лепшае сапраўды надыдзе, то карыснымі будуць тыя даследаванні, што вядуць цяпер навукоўцы, даследуючы і аналізуючы сацыяльна-палітычнае і эканамічнае жыццё Беларусі і беларусаў. Магчыма, нашы нашчадкі будуць чэрпаць свае веды аб беларусах, якія жылі на пераломе другога і трэцяга дзесяцігоддзяў беларускай незалежнасці і з артыкулаў, што змешчаны на сайце „The Point" па адрасе **www.thepointjournal.com**.

Каб больш дэталёва пазнаёміцца са зместам сайта, трэба зайсці на старонку „Пра нас", якая стаіць першай у пераліку назваў старонак. „Мэта праекта The_Point Journal — аналітычны падыход да досведу трансфармацый і развіцця краін, што знаходзяцца на шляху постсацыялістычнага пераходу. Галоўная ўвага праекта, аднак, надаецца беларускай тэматыцы. Праект аб'ядноўвае аналітыку ў сферы права, эканомікі і сацыяльных і іншых навук. Менавіта такі спектр тэм дазваляе найлепей зразумець тэндэнцыі, што адбываюцца ў рэгіёне. Сайт ёсць незалежным і прынцыпова апалітычным праектам. Сайт характарызуецца адсутнасцю ўсялякага роду заангажаванасці і мае на мэце зрабіць даступны і якасны праект для масавага чытача. Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтара, аднак, адкрытая да супрацы з шырокім аўтарскім колам", — пішуць аўтары і натхняльнікі сайта.

Як мусіць быць у сапраўдным часопісе The_Point Journal мае рэдакцыю і навуковую раду. Аб гэтым паведамляецца на той жа старонцы „Пра нас". Сярод персаналій там пазначаных — такія вядомыя чытачу „Нівы" навукоўцы як Ян Запруднік, Алег Латышонак, Яўген Міраповіч і іншыя.

Артыкулы, што месцяцца на сайце, тычацца права, эканомікі, паліталогіі — для гэтых навук маюцца асобныя старонкі, выйсці на якія карыстальнік знойдзе ў версе выяўлення. На старонцы „Іншыя навукі" знаходзяцца артыкулы па гісторыі і грамадстваазнаўстве.

Даволі цікавымі падаюцца дзве рубрыкі — „Навіны" і „Падзеі". Шчыра кажучы, ані першая, ані другая не адпавядаюць сваім назвам. „Навіны" з большага падаюць меркаванні розных людзей па той ці іншай праблеме ці здарэнні, а „Падзеі" да такіх жа самых меркаванняў дадаюць яшчэ артыкулы з аналізам таго ці іншага пытання.

Уладальнікі сайта запрашаюць да ўдзелу ў інфармацыйным насычэнні The_Point Journal. На старонцы „Для аўтараў" яны заяўляюць, што тэксты прымаюцца на любой мове. „Дасланыя тэкст, аўтар выказвае сваю згоду на пераклад артыкула на мовы часопіса", — кажуць яны. Сайт мае беларускую і англійскую версіі, праўда, артыкулы сустракаюцца і на польскай, і на рускай мовах.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

# Чалавек ціхай пабожнасці

# 125 гадоў з дня нараджэння Дамініка Аніські



Беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, публіцыст Дамінік Аніська нарадзіўся паводле адных звестак 7 студзеня, паводле іншых 12 студзеня 1888 года ў вёсцы Слойнікі, што на Сакольшчыне. Яго бацькі — Ян і Людвіка — былі сялянамі. Тыя навукоўцы, што займаюцца нумаралогіяй мусяць звярнуць увагу на гэтыя тры васьмёркі ў канцы XIX стагоддзя — пад імі нарадзіўся цэлы шэраг ідэолагаў беларускага нацыянальнага руху.

Дамінік Аніська спярша адвучыўся ў пачатковай школцы вёскі Яноўшчына, а пасля закончыў Сакольскую гарадскую школу. Далейшы жыццёвы шлях гэтага чалавека быў пакручастым і насычаным падзеямі. 19-гадовым юнаком ён быў прызваны на тэрміновую службу ў расейскае войска, служыць давялося ў Гародні ў пяхотным палку. Даследнікі пішуць, што менавіта ў горадзе над Нёманам у кнігарні па вуліцы Саборнай Дамінік убачыў першую беларускую кніжку — гэта была „Дудка беларуская" Францішка Багушэвіча. Магчыма, яна і вызначыла ўвесь яго далейшы лёс.

Пазней прымаў удзел у баявых дзеяннях у Першую сусветную вайну ў складзе расейскай арміі. У 1918 г. быў мабілізаваны ўжо ў польскае войска. Пасля 1923 г. выйшаў у запас. Пачынаючы ўжо з 1914 г., Аніська актыўна супрацоўнічаў з беларускімі перыёдыкамі, пераважна віленскімі — друкаваўся ў такіх газетах і часопісах як „Biełarus" (1913-1915, Вільня); „Krynica" (1918-1920, Петраград — Менск — Вільня); „Chryścijanskaja Dumka" (1928-1929, Вільня). Сам Аніська выдаў некалькі брашур характару адозваў: „Да беларускага народу", „Усё ў міласці". У гэты час ён падтрымліваў беларускамоўныя выданні і ўласнымі сродкамі.

У 1939 г. ён быў зноў мабілізаваны ў польскае войска, да 1940 г. быў у Літве. Пазней быў арыштаваны бальшавікамі і зняволены ў савецкім канцлагеры ў Казельску, потым пераведзены ў Валагодскую вобласць. З гэтых пякельных колаў яму ўдалося выйсці жывым. У разгар Другой сусветнай вайны ў 1942 г. трапіў у армію Андэрса. Разам з ёю выйшаў у Іран, а адтуль у Палесціну і Егіпет. У час побыту ў Іерусаліме супрацоўнічаў з польскім рэлігійным выданнем „Tygodnik Katolicki".

З 1949 г. Дамінік Аніська стала жыў у Вялікабрытаніі. Рабіў допісы ў вядомы эміграцыйны часопіс „Божым шляхам". Яго артыкулы былі прасякнуты „ціхай пабожнасцю". З эміграцыі ён часта высылаў сябрам і знаёмым пакункі з лекамі, дапамагаў усім, каму мог. З цеплынёй яго згадвае ў сваіх успамінах Язэп Германовіч. Адышоў у іншы свет Дамінік Аніська ў старасці — у 1977 г. і быў пахаваны на лонданскіх могілках Святога Панкрата.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

10 ☞працяг Вера Белакоз

цэлымі днямі Вера і хлопцы зубрылі нямецкую мову, чыталі раманы па-нямецку, газеты, часопісы, і размаўлялі між сабой па-нямецку. Больш з вёскі, а таксама з суседніх, нікога не расстралялі, не пасадзілі, не саслалі ў лагер смерці.

Пасля гэтай справы Вера Белакоз пачала агітаваць хлопцаў, каб адкрывалі ў вёсках патаемныя беларускія школы. Вера стварыла школу дома. Сюды хадзілі дзесяць чалавек. Хадзілі дзеткі хаваючыся і не ўсе адразу, адны з загуменняў, а другія з дарогі. Тады Ваўкавышчына адносілася да Беласточчыны, якая была аб'яўлена Усходняй Прусіяй, гэта значыць Нямеччынай, у якой беларускіх школ не павінна было быць. Тутэйшыя людзі нават сталі пагаворваць, што немцы даведаліся пра існаванне патаемнай школы Веры Белакоз. Таму заўсёды на душы ў дзяўчыны і ва ўсіх была вялікая трывога. Але школа існавала. Вось што ўспамінае брат Веры Белакоз Алесь Мікалаевіч:

«Неяк Вера сказала: „Задала вам на сёння вывучыць на памяць тры раздзелы з паэмы „Курган" Янкі Купалы. Але ніхто з вас усіх раздзелаў не вывучыў. Калі б немцы ведалі, што вы не хочаце вучыць роднай беларускай літаратуры, то сёння прывезлі б вам скрынку цукерак. А потым кожнага з вас пагладзілі б па галоўцы і сказалі б: вы добра робіце, што не вучыце беларускай літаратуры. Мы гэту ведзьму, што вас мучыць заняткамі, зараз расстраляем, а вам прышлем немца, які будзе вучыць вас панямецку...". Мы, хлопчыкі, плачучы пайшлі з класа, а дзяўчынкі абляпілі настаўніцу і пачалі прасіць яе: „Даруйце нам, калі ласка. Мы ўсю паэму вывучым на памяць. Мы вас любім. Любім Беларусь і родную мову". Дзяўчынкі пачалі плакаць, цалуючы і абдымаючы настаўніцу. Гэта была субота. У панядзелак амаль усе паэму „Курган" ведалі на памяць».

У канцы чэрвеня 1941 года Алесь з сябрамі ўбачыў каля рэчкі на сенажаці савецкага салдата. Дзеці пачалі будзіць салдата, але ён не рэагаваў на іх старанні дапамагчы яму. Пра гэты факт сказалі Веры. Вера ўзяла хлеба, сала, палянвіцы і прыбегла з Алесем на дарогу, па якой адступалі савецкія танкі. Вера з братам стала сярод дарогі і танк, які ехаў, спыніўся. Адчыніўшы люк вайсковец закрычаў: „Ты што, не бачыш, што мы адступаем? Яшчэ і хлопчыка пад гусеніцы падстаўляеш. Сыдзі з дарогі!". „Не сыду!", — закрычала Вера. „Чаму?", — здзівіўся вайсковец. „Там хворы салдат. Забярыце яго, бо немцы расстраляюць", — папрасіла Вера. Вайсковец паслухаўся і праз люк апусціў салдата ў танк, а сам ён сеў на машыну зверху. Так яны і паехалі адступаць.

У 1943 годзе да Белакозаў зайшоў нехта Карпук і пачаў агітаваць Веру, каб яна ехала на з'езд у Беласток і ўступіла ў Саюз беларускай моладзі. Ён заходзіў і да Дзімы Жалезняковіча. Але Вера адмовілася. Яна сказала, што каб была здаровая, то абавязкова паехала б і паглядзела б, што гэта за Саюз. Але каб дабрацца да Беластока, трэба было пехатой ісці да Саколкі, але яна з-за хваробы не прайшла б і некалькі кіламетраў.

У Беласток тады паехаў яе сябра Дзіма Жалезняковіч, які ўступіў у Саюз беларускай моладзі, потым вучыў дзетак у беларускай школе. Пасля вайны ён за гэта атрымае 10 гадоў Сібіры.

Калі скончылася вайна, Вера Белакоз працавала настаўніцай у Гудзевіцкай школе, дзе па-ранейшаму выхоўвала беларускіх патрыётаў. Праўда, яе часта наведвалі супрацоўнікі КДБ. Аднойчы прыехаў кадэбэшнік, які быў даволі адукаваным чалавекам. Вось яму Вера Белакоз і не пабаялася сказаць праўду ў вочы, што працуюць яны ўсе дарам, што яна за месячную зарплату можа купіць толькі восем кілаграмаў збожжа, якіх хапае на тое, каб пракарміць год тры курыцы, а есці самой трэба, старэнькай матулі, брату, які вучыцца ў Ваўкавыску ў восьмым класе і плаціць за вучобу 150 рублёў за год. Вера абуралася, што ў школе мала гадзін на беларускую мову, што ўстановы навадняюца рускімі, што старшыня сельсавета — рускі, дырэктар школы — руская, сакратар партыйнай арганізацыі — рускі. Што казала Вера, кадэбэшнік запісваў у пратаколы, але, відаць, занатоўваў не ўсё. Дый потым вяскоўцы прасілі яго не арыштоўваць Веру. Супрацоўнік КДБ аказаўся на дзіва сумленным чалавекам, таму што Веру больш ніколі КДБ не чапала.

28 траўня 1948 года ў Гудзевіцкай школе а дзявятай гадзіне меў пачацца экзамен па матэматыцы ў чацвёртым класе. Прыехаў інспектар раённага аддзела адукацыі Стольнікаў. Седзячы каля школы ён запытаўся ў дырэктара школы Барыса Кофмана: „А почему все ученики и учителя плачут, они страшно боятся экзаменов?" — „Сёння ноччу памерла наша найлепшая настаўніца, усе яе шкадуюць...", — адказаў дырэктар.

— А она местная или восточница? — далей пытаецца Стольнікаў.

— Не, тутэйшая, шчырая беларуская патрыётка, — адказвае Кофман.

— Да что б они, эти западники, все передохли — я был бы счастлив, — зрываецца інспектар. Праз некалькі гадзін, напіўшыся, Стольнікаў паехаў на Ваўкавыск.

Калі хавалі Веру Белакоз, быў прыгожы, цёплы, веснавы дзень. На пахаванне сабраліся сотні людзей. Дзяўчыну пахавалі на вясковых могілках у Гудзевічах.

Калі ўспамінае сваю родную сястру Веру заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз, на вачах з'яўляюца слёзы: „Верачка ўвесь час думала, каб прынесці найбольш славы, дабра, карысці, заказанасці ў сваю Бацькаўшчыну".

# Сазонаў у Гайнаўцы

У Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы 22 лістапада 2012 г. абылася аўтарская вечарына з Віктарам Сазоновым у сувязі з выхадам у свет ягонай кніжкі „Нататкі канрабандыста" на польскай мове.

Віктар Сазонаў нарадзіўся ў 1963 годзе ў Гальшанах на Гродзеншчыне. Закончыў гістарычны факультэт Універсітэта імя Янкі Купалы ў Гродне. Зараз В. Сазонаў журналіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, звязаны м.інш. з Праваабарончым цэнтрам „Вясна". Ён з'яўляецца членам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

„Нататкі кантрабандыста" гэта дэбют Сазонава ў перакладзе на польскую мову. У кніжцы 39 апавяданняў пра прыгоды гродзенскіх кантрабандыстаў на польска-беларускай мяжы ў дзевяностых гадах. Апавяданні Сазонава арыгінальныя, насычаныя гумарам і непрадбачальнымі здарэннямі. Гэта захапляючая проза.

Падчас сустрэчы прысутныя пазнаёміліся са зместам аднаго з цікавейшых апавяданняў. Пісьменнік, як выявілася, з'яўляецца вельмі добрым расказчыкам. Удзельнікі задалі шмат пытанняў, у тым ліку і пра актуальную палітычна-эканамічную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь. Госць на ўсё даў адказ. А затым падпісваў сваю кніжку, даваў аўтографы. Была гэта адна з цікавейшых сустрэч з беларускім замежным пісьменнікам на Беласточчыне.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. адзін працэнт ад гектара = 9 _ 19 _;
2. цэнтр аўтамабільнай прамысловасці ў Смалявіцкім раёне = 1 _ 11 _ 22 _ 32 _ 33 _ 3 _ 23 _;
3. гаспадар Алімпа = 8 _ 15 _ 12 _ 16 _;
4. прадмет = 28 _ 29 _ 30 _;
5. форма тулава = 26 _ 27 _ 7 _ 6 _;
6. горад на 53°48'N і 30°58'E = 4 _ 14 _ 13 _ 25 _ 24 _ 5 _;
7. цэнтр кітайскай эканомікі = 35 _ 36 _ 34 _ 10 _ 2 _ 37 _;
8. вучэнне аб маралі = 20 _ 21 _ 31 _ 18 _ 17 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | | | | | 32 |
| | | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 49 нумара**

Абора, арэал, Вена, дзед, лагер, пешка, салон.

Рашэнне: **Добрае слова лепшае за дрэнная лекара.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Антаніне Ахрымюк** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 06.01 — 12.01

**(22.03. — 20.04.)** З лёгкасцю пераканаеш іншых да тваіх ідэй. Ды да 9.01. не парывайся на тое, што перарастае твае магчымасці. У пачуццях не дазволь, каб малое непаразуменне вырасла ў скандал. У фінансах часовы застой. Апранайся цёпла і насі шапку.

**(21.04. — 21.05.)** Павер у сябе — і ў бой! Удачы ў кантактах. Твая жыццярадаснасць надзеліцца іншым. Пільнуйся, каб не паламацца. Ды 6-10.01. паводзь сябе тактоўна, пільнуйся, каб кагосьці не абразіць, не пакрыўдзіць. Неспадзяваная сітуацыя можа вывесці цябе з раўнавагі; пагадзіся з тым, што не ўсё кантралюеш.

**(22.05. — 22.06.)** Хопіць табе нагод для забавы, флірту і цікавых размоў. Дагаворышся з усімі і справішся са справамі, з якімі іншыя не далі рады. Трохі непаладкаў са здароўем (страўнік, прастуда?). Пільнуйся на працы, прыйдзецца праседжваць штаны за працай. Большых грошай прыйдзецца пачакаць.

**(23.06. — 23.07.)** Не мані, бо можаш адхіліць ад сябе нават спрыяючыя табе асобы. Маеш шчасце да людзей. Твая мілата адкрые перад табою шмат дзвярэй і... сэрцаў. Маладзік Месяца 11.01. можа аказацца новым пачаткам. Убачыш справы ў новым святле, знойдзеш вырашэнні праблем. З 12.01. можаш разлічваць на прыхільнасць кіраўніцтва.

**(24.07. — 23.08.)** Без цяжкасцей здабудзеш кожную мэту, таму мець так высока, як толькі ўдасца. Твой тэмперамент дасць аб сабе знаць. Дома дай больш „люзу" хатнім. Не паддавайся зімовай хандры. На працы цудоўная атмасфера. Калі думаеш аб больш грашах, варта падумаць аб сваёй дзейнасці, дзе спалучыў бы ты працу са сваімі зацікаўленнямі.

**(24.08. — 23.09.)** Здзівіш атачэнне інтэлігентнасцю і талентамі. А цябе заспее... каханне. Да 9.01. маеш шанц выклікаць вялікае ўражанне на атачэнні. Паказвайся на сходах, сустрэчах, бяры голас. Але не ўблытайся ў бессэнсоўную спрэчку. Задбай аб згоду сярод сваякоў. Будзеш моцны як тур.

**(24.09. — 23.10.)** Не паддавайся сумненням. Найлепшыя хвіліны яшчэ перад табою! Паправіш сямейныя адносіны. Знакаміта дагаворышся з калегамі. Хаця могуць прыгнятаць цябе абавязкі, трэба будзе аформіць шмат неадкладных спраў. У кашальку можаш мець менш, ды голад табе не пагражае (з грашыма паправіцца пад канец месяца).

**(24.10. — 22.11.)** Людзі будуць табе вельмі спрыяць, з іх дапамогай аформіш усё. Не трымайся збоку кампаніі. Да 8.01. маеш шанц паказацца перад шэфам. Не паддавайся зімовай меланхоліі. У кар'еры ўзмацняй сваю пазіцыю. Калі шукаеш працы, не мусіш прымаць кожнай прапановы. Можаш нават спрабаваць пайсці на свой бізнес. Могуць паявіцца прыбыткі, на якія ты нават перастаў разлічваць!

**(23.11. — 22.12.)** Карыстайся кожнай нагодай. Што запалануеш, тое ўдасца. Дні поўныя ўражанняў. Не перамогуць цябе ніякія вірусы ці заразкі. У фірме спакойны час. Маеш шанц шмат зарабіць. Ды 6-10.01. могуць прытрапіцца праблемы, у якія ўлезеш па сваім жаданні.

**(23.12. — 20.01.)** Энергіі і адвагі можна табе толькі пазайздросціць. У галаве табе цяпер не раманы, не будзеш цяпер прыцягваць як магніт другі пол. Выезд з хаты табе добра зробіць. На працы столькі заняткаў, што невядома ў што спачатку рукі ўкласці. Не нервуйся, што нейкая справа будзе спазняцца, бо гэта пойдзе да дабра.

**(21.01. — 19.02.)** Дзякуючы знаёмым і сябрам твае жыццё набярэ новых колераў. Будзеш мець добрыя задумы і энергію для іх рэалізацыі. 6.01. некаторыя твае планы могуць не ўдацца, абдумвай свае рашэнні. З 11.01. (да 15.01.) можа табе здацца, што траціш грунт пад нагамі. Калі падазраваеш партнёра ў здрадзе, шчыра паразмаўляй.

**(20.02. — 21.03.)** Павер у сябе, бо шмат зменіцца на лепшае. Дай толькі шанц шчасцю. Можаш вырашыць праблему, якая турбавала цябе здаўна. Захавай памяркоўнасць у дыеце. У сямейных справах твае прадчуванні будуць трапныя. 8-12.01. даскнала складуцца твае адносіны, здабудзеш сяброў, а можаш нават закахацца.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі**: 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс**: (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар**: Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара**: Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар**: Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі"**: Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты**: Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя**: Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą**: kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**

Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.

Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl

Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.

**Prenumerata w redakcji**

Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.

Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**, BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Каля Кузніцы

**Нейкі час таму дабраўся я да Кузніцы, а там адвёў увагу яе нараджэнцу Міхалу Каяловічу. Аднак маё адступленне яму было толькі пэўнага роду цікавінкай, пэўнага роду прымеркаваннем да сённяшніх палітычных працэсаў, бо Каяловіч не прыцягвае істотнай увагі шырокай публікі. Ёсць жа процьма ўсялякага народу з менш ці больш арыгінальнымі грамадскімі меркаваннямі, а Каяловіч на гэтым фоне бачны не як нейкая вялікая фігура, але як звычайная пешка. Таму вярнуся да самой Кузніцы.**

Пачаткі Кузніцы трэба звязваць з аглядкай на мясцовую тапаграфію, а дакладней — з наяўнасцю недалёкай княжацкай сядзібы ў Гародні ды руднямі ў даліне рэчкі Ласосны. І да заснавання замка ў Гародні былі ў наваколлі пасяленні, але яны яшчэ не далі выразнай інфраструктуры. Гародня ў летапісах пачатку XII стагоддзя згадваецца як цэнтр Гарадзенскага княства, а гэта абазначае, што там верагодна быў замак. І для патрэб гэтага замка на навакольных руднях сталі ўзнікаць гораны, пра што здаецца падказваць і тапанімія мясцовасцей даліны Ласосны: Кузніца і Кавалі.

Больш рашучы штуршок для развіцця атрымала Кузніца ў XVI стагоддзі ў выніку палітычных працэсаў у больш шырокім наваколлі. Менавіта ў 1526 годзе да Кароны была далучана Мазовія, з новым княжацкім асяродкам Варшавай, у якую пачаў пераносіцца цэнтр грамадскага жыцця тагачаснай Польшчы. А гэта, у сваю чаргу, выклікала таксама і змену дасюлешніх галоўных шляхоў, што злучалі сталіцу Вялікага Княства Літоўскага Вільню з Каронай. Яны ад Вільні пралягалі праз Гародню і так засталося далей. Але ад Гародні яны сталі набіраць іншы напрамак. Раней галоўны шлях між сталіцамі развіваўся з Гародні ў Бярэсце і далей у Кракаў праз Адэльск, Гарадок, Заблудаў, Бельск і Мілейчычы. Цяпер жа з Гародні ён стаў адхіляцца на захад, у напрамку Кнышына і Тыкоціна, напаўняючы новым зместам ранейшы шлях ад Гародні праз Візну ў Плоцк — сядзібу мазавецкіх князёў. Новы шлях пралёг праз Кузніцу і Саколку.

Валяр'ян Буйноўскі, аўтар манаграфіі Сакольскага павета, выдадзенай у 1930-х гадах, так пісаў пра Кузніцу: „Osada Kuźnica leży nad Łosośną o 23 km od Grodna i 16,5 km od Sokółki. Powstanie jej odnosi się do XVI wieku. Nazwa osady powstała stąd, że widocznie dawniej wytapiano tu żelazo z rudy darniowej. Dotychczas na polach Kuźnicy spotyka się bryły tej rudy, zwane przez ludność miejscową „ryndzą", zawierające pewien procent żelaza. Drewniany kościół, wzniesiony i ufundowany w roku 1545 przez Zygmunta I (wg. zaś ks. Jana Kurczewskiego w r. 1561 przez Zygmunta II Augusta) spalił się w roku 1812. Poświęcenia nowego, murowanego, pod wezwaniem jak i poprzedni — Opatrzności Boskiej, dokonano w roku 1866. Na miejsce dzwonów wywiezionych przez Rosjan, w roku 1926 sprowadzono nowe. Zabytków historycznych kościół nie posiada, jeśli nawet były, musiały się spalić w czasie pożaru w roku 1812, podobnie jak i archiwum kościelne. W XVI i XVII w. osada posiadała przywileje królewskie na prawo odbywania jarmarków i targów. Za czasów Tyzenhauza liczyła 87 dymów. W latach 1796-1807 była Kuźnica koronnym miastem pruskim, ożywionym ze względu na bliskość granicy z Rosją. Z przejściem obwodu białostockiego do Rosji osada straciła na znaczeniu".


Царква ў Кузніцы

Пра кузніцкі касцёл крыху інакш распавядае афіцыйны партал Беластоцкай архідыяцэзіі: „Pierwszy kościół zbudował w 1545 r. król Zygmunt Stary, a królowa Bona w roku następnym nadała Kuźnicy prawa miejskie. Był on świątynią filialną parafii Odelsk. Samodzielna parafia powstała w Kuźnicy dopiero w latach 1601-1602. Na początku XIX w. parafianie kuźniccy chcieli zbudować kościół murowany. Zapewne trudności spowodowały, że nie zdołano zrealizować tych zamiarów i zbudowano przed 1820 r. kościół drewniany. Dopiero w latach 1860-64, dzięki staraniom ks. Adama Pisanki, wystawiono okazałą, murowaną, dwuwieżową świątynię z detalami ostrołukowymi. Była to jedna z pierwszych na Białostocczyźnie świątyń w stylu neogotyckim. Kościół poświęcił dziekan grodzieński ks. Aleksander Gintowt w dniu 15 XII 1864 r. W czasie drugiej wojny światowej kościół został mocno zniszczony. Z ruin podźwignął go ks. Jan Malinowski wraz ze swymi parafianami".

Каталіцкія аўтары згадваюць толькі пра кузніцкі касцёл, а пра тамашнюю царкву ні слова. Часам так з гісторыкамі бывае, што гуляюць яны толькі сваімі цацкамі. Пра кузніцкую царкву пішуць затое а. Рыгор і м. Антаніна Сосны. Спярша агульна: „W Puszczy Grodzieńskiej wzniesiono u źródeł Łosośny dwór Malawica, a nad rzeką Łosośną zbudowano Kuźnicę. Na zasiedlanych terenach w 1536 r. założono miasto Kuźnicę. Na nowo zagospodarowywanych terenach dla Rusinów powstały parafie w Wołkuszu i Kuźnicy, fundowane przez Bohufałów w 1566 r. z uposażeniem 2 włók gruntu. Cerkiew została wybudowana na wzgórzu, które należało do starej wsi Wojnowce,


Панарама наваколля Ласоснай-Вялікай з колішняй цвердзі

założonej w czasach Kazimierza Jagiellończyka na ziemiach nadanych Mieleszce Michajłowiczowi. Cerkiew znajdowała się przy dworze, obok wybudowano zabudowania klasztorne. W cerkwi znajdowała się cudowna ikona Matki Bożej. W „Litovskich Eparchialnych Vedomostjach" z 1883 r. zamieszczona została wzmianka *cto nynesnija Kuzneckaja cerkov postroena radi cudotvornoj ikony Bożej Materi s soedeny vospominanija o slavnych pobedach Jana Sobeskago nad Turkami. Govorat cto mestoctimaja drevnjaja Kuznickaja ikona Bożej Materi vzjataja iz kakoj-to pravoslavnoj cerkvi i potomu dlja neja narocno bylo zdes postroena nebolsaja derevjannaja cerkov.* Jak wiadomo, cerkiew stała już w 1556 r., a następną pobudowano w 1772 r. Ikona Matki Bożej była bardzo czczona przez tak prawosławnych, jak i katolików. Właścicielka dóbr Łosośna Mała, Eleonora Skorotowicz, katoliczka w swoim testamencie zaznaczyła, że życzeniem jej jest być pochowaną na cmentarzu prawosławnym. Za życia wznosiła gorące modlitwy przed ikoną Matki Bożej w Kuźnicy *a potomu żelaju ctoby i po smerti ona była pod Eja bożestvennym pokrovom.* Prośba została spełniona i pochowano ją w obrządku wschodnim na cmentarzu prawosławnym. Podczas I wojny światowej, w czasie bieżeństwa, uchodząca ludność zabrała ze sobą najcenniejsze utensylia cerkiewne, część jednak drogocennych ikon i dokumentów zakopano pod podpiwniczeniem cerkiewnym. Niestety, jeden z mieszkańców zdradził miejsce ich przechowania i po powrocie tych cenności już nie było".

Аднак зараз у кузніцкай царкве захоўваецца ікона, якую кансерватары мастацтва адносяць да другой паловы XVII стагоддзя. Магчыма, што гэтак цудам захавалася тая самая цудоўная кузніцкая ікона, перад якою малілася Элеанора Скаратовіч, уласніца маёнтка Ласосна-Малая...

Вось што пра Дворскі будынак у Ласосне-Малой пішуць Катажына і Ежы Самусікі: „W latach 1720-1722 Zygmunt Bouffał wybudował według projektu nieznanego architekta nowy, modrzewiowy dwór. Stanął on na nachylonym ku płynącej w dole Łosośnie zboczu doliny, zorientowany na kierunek północno-zachodni zgodnie z zasadami budowy polskich dworów szlacheckich. Takie usytuowanie budynku umożliwiało optymalne nasłonecznienie całego wnętrza — słońce zaglądało przez okna do każdego pomieszczenia co najmniej przez godzinę dziennie. Był to ten sam dwór, który możemy oglądać dzisiaj". Вакол двара былі парк і сад. Цягам гадоў змяняліся ўласнікі, а ў 1939 годзе ягоны апошні даваенны ўладальнік трапіў у савецкі палон і ў Катынь...

Будынак занепадаў, але ў 1960-х гадах быў праведзены рамонт, а ў 1970-х гадах наведала мясцовасць тадышняя віцэ-маршалак Сейма Галіна Скібнеўская і захацела на яго аснове пабудаваць вялікі адпачынковы комплекс. Аднак неўзабаве тагачасныя планы пабудовы „Другой Польшчы" праваліліся і да гэтага не дайшло, пазней будынак вярнуўся да спадкаемцаў ранейшых уласнікаў і зараз ён абнаўляецца.

Недалёка, каля кіламетра, ад Ласоснай-Малой распалажана і Ласосна-Вялікая. Быў я пра яе крыху згадваў раней. І згадваў пра крутую гару на супрацьлеглым беразе Ласосны. Незвычайная гэта гара. Вось што пра яе піша Лешак Ясельчук: „W okresie gdy książęta ruscy zakładali gród Grodno, wzniesiono również warownię na wzgórzu w Łosośnie Wielkiej. Gród ten, ze względu na swą lokalizację na dość wysokim pojedynczym wzniesieniu (nieopodal rzeki Łosośna) miał charakter obronny. W świetle najnowszych badań (...) nasuwa się przypuszczenie, iż była to prasłowiańska warownia, prawdopodobnie podlegająca władztwu grodzieńskiemu (oddalonemu jedynie kilkanaście kilometrów od Łosośny). Słowiańskość tego grodziska potwierdzają wcześniejsze badania archeologiczne (...). Odkryto tu głównie ceramikę, żużel, polepę, kości, okucia oraz zawieszkę dzwoneczkową, znaną z obszaru całej Słowiańszczyzny i nożyk żelazny. Ceramika jest bardzo zróżnicowana chronologicznie. Zamyka się między połową X a XI wieku. Odkrycia te dowodzą, że Jaćwięgowie zostali wyparci z tych terenów na Pojezierze Suwalsko-Augustowskie już u schyłku I tysiąclecia. Natomiast zaczątki słowiańskich grodów w Łosośnie i Grodnie mogły już mieć miejsca w I połowie XI wieku. Ostatecznie warownia znad Łosośny spłonęła czy też została spalona przypuszczalnie w XII wieku. Nigdy już później tego grodu nie odbudowano".


Двор у Ласосне-Малой

ISSN 0546-1960